Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 46 (4744) 22 лістапада 2013 г.





**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**

***

*Вось так —*
*з адкрытым небам —*
*заначую.*
*А зоркі будуць днець у вышыні.*
*І праз траву гаючую*
*адчую,*
*Як у зямлі багата цеплыні!*

*Ні спачуванняў тых,*
*ні перашкоды,*
*Ні адчування суму, ні віны.*
*Адно — бруяцца бэзавыя воды*
*І, нібы выклік*
*роднае прыроды, —*
*Стаяць на вечнай варце*
*валуны...*

*Дабрыдзень,*
*ліст вясковага спакою,*
*Уяўнага, як люстра ціхіх вод.*
*Калі ж душа*
*зліваецца з ракою —*
*Няма тады*
*спадманнага спакою —*
*Ёсць ціхіх думак*
*шумны крыгаход.*

*Ёсць мудрае, адзінае жаданне*
*Дарэшты зразумець,*
*чаму з вякоў*
*Нам раніць сэрца*
*кожнае вяртанне,*
*І кожнае*
*трывожнае спатканне*
*Не умясціць у рамкі гучных слоў.*

*Таму і жыць,*
*і жыць мне тут заўсёды,*
*Любіць твае азёры і ільны,*
*Пакуль бруяцца бэзавыя воды*
*І, нібы выклік*
*роднае прыроды, —*
*Стаяць на вечнай варце*
*валуны...*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Аляксея Баталава з 85-годдзем. «Вялікі талент, акцёрскае майстэрства і ўменне глыбока пранікаць ва ўнутраны свет сваіх герояў, ствараючы надзвычайна яркія, цэльныя і праўдзівыя вобразы і характары, прынеслі вам заслужанае прызнанне і любоў гледачоў», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь павіншаваў народнага артыста Беларусі Міхаіла Берсана з 65-годдзем. «Больш як 30 гадоў вы самааддана служылі Айчыне ва Узброеных Сілах, з’яўляліся мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам аркестра Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё айчыннай музычнай культуры і патрыятычнае выхаванне моладзі», — гаворыцца ў віншаванні. — Цяпер, працуючы ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў якасці педагога і кіраўніка духавога аркестра «Фанфары Беларусі», вы шчодра дзеліцеся з вучнямі багатым прафесійным вопытам, узбагачаеце слаўныя традыцыі нацыянальнай школы інструментальнага выканальніцтва».

✔ Дакументальная стужка «Драўляны народ» рэжысёра Віктара Аслюка ўдастоена прыза глядацкіх сімпатый у катэгорыі фільмаў працягласцю да 45 хвілін на X Міжнародным кінафестывалі *Filmfest Eberswalde* ў Германіі. Карціна расказвае пра разьбяра па дрэве Мікалая Тарасюка.

✔ Новыя турыстычныя маршруты звяжуць музей М. Шагала ў Віцебску і Даўгаўпілскі арт-цэнтр імя М. Роткі. Пра гэта паведаміла дырэктар музея Марка Шагала Людміла Хмяльніцкая. Штогод арт-цэнтр імя Марка Роткі і музей Марка Шагала наведваюць вялікія патокі турыстаў з Еўропы і Расіі. З улікам гэтага названыя ўстановы культуры маюць намер рэалізаваць сумесны праект, які звяжа іх у адзіны турыстычны маршрут. Людміла Хмяльніцкая падкрэсліла: цікавасць да творчасці двух мастакоў праяўляецца ва ўсім свеце.

✔ Кінаакцыя «Ноч вялікага кіно» ладзіцца сёння ў Магілёве. Стартуе мерапрыемства ў кінатэатры «Чырвоная зорка» ў 23.00. Гледачам прадставяць тры самыя папулярныя прэм’еры восені: «Тор 2», «Галодныя гульні: і ўспыхне полымя», «Горка!». На працягу ўсёй ночы з гледачамі будуць працаваць прафесійныя фатографы, відэографы, вядучы. У праграме — гульні, конкурсы, віктарыны.

**Падрыхтавала**
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Надзённае

# Рашэнне секцыі

Чарговае пасяджэнне бюро секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі было прысвечана разгляду арганізацыйных і творчых пытанняў.

Са сваімі прапановамі, заўвагамі, меркаваннямі выступілі члены бюро Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі, Віктар Гардзей, Мікола Маляўка, Павел Саковіч, Генадзь Аўласенка, Вольга Нікольская, старшыня секцыі Уладзімір Мазго, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Па выніках творчай дыскусіі намеснікам старшыні секцыі аднагалосна абраны дзіцячы пісьменнік Генадзь Аўласенка. Разгледжана і абмеркавана творчасць для дзяцей маладога казачніка Дзмітрыя Саўчыка і паэтэсы Ірыны Карнаухавай, якія рэкамендаваны да прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Разгледжаны таксама прапановы паэта Андрэя Смятаніна па ўдасканаленні работы дзіцячай секцыі. Прынята рашэнне, што кандыдатаў на прыём у СПБ па дзіцячай літаратуры спачатку будзе разглядаць бюро секцыі і толькі потым — гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

# Майстар-клас. Джазавы

На пяць дзён Мінск стаў вялікай джазавай пляцоўкай: сталіца Беларусі прымала II Міжнародны фестываль джаза «Alfa Jazz in Minsk-2013».

Упершыню гэты форум прайшоў у мінулым годзе. Фестывальныя канцэрты і майстар-класы сабралі ў той час больш як 4 тысячы прыхільнікаў джаза не толькі з Беларусі, але і з Еўропы, ЗША. Сёлетні фэст сабраў каля 10 тысяч гледачоў, амаль усе квіткі былі раскуплены.

— Жыхары горада могуць пазайздросціць самім сабе. Вялікая колькасць зорак гаворыць пра грунтоўнасць фестывалю. Гэта будзе пастаянна дзеючы праект. У планах — запрашэнне дадатковых спонсараў, каб пашырыць зорны шэраг, — распавёў старшыня праўлення ЗАТ «Альфа-Банк» Ігар Кацібнікаў.

Канцэрты праходзілі на трох пляцоўках: у Палацы Рэспублікі, Палацы культуры прафсаюзаў, а таксама «Джаз-Клубе Яўгена Уладзімірава» (кафэ Палаца Рэспублікі). Свае выступленні падаравалі саліст аркестра Дзюка Элінгтана найвялікшы саксафаніст Марк Грос (ЗША), легенда джаза Гарлема 50 — 60-х Біл Сакстон (ЗША) і ўладальніца тытула «Лепшая джазавая вакалістка Вашынгтона» Мішэль Уокер (ЗША), уладальнік тытулаў «Лепшы джазавы піяніст» і «Лепшы джазавы кампазітар» 2010 — 2013 гг. Аруан Орціз (ЗША), уладальнік 10 вышэйшых узнагарод *Best of Music* піяніст Келвін Шолар (ЗША), самы віртуозны трубач планеты Даніэль Ален Аберта (Куба), а таксама беларускія музыкі.

Адкрыўся фестываль выступленнем шасці фенаменальных салістаў з Алабамы, здольных голасам прайграваць гук любога музычнага інструмента, — знакамітая група *Take 6*. На працягу ўсяго фэсту маладыя джазмены змаглі пабываць на майстар-класах і аўтограф-сесіях сусветных зорак імправізацыйнага жанру з ЗША, Літвы, Вялікабрытаніі, Кубы, Ізраіля і многіх іншых краін.

II Міжнародны фестываль джаза «Alfa Jazz in Minsk-2013» арганізаваны канцэртным холдынгам «Джаз-Клуб Яўгена Уладзімірава» і прадзюсарскім цэнтрам *JazzinMinsk* пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва. Генеральны партнёр фестывалю — ЗАТ «Альфа-Банк».

**Таццяна ШЫМУК**

Фота Аляксандра Дзмітрыева



*Біл Сакстон (злева), легенда джаза Гарлема 1950—1960-х, і Яўген Уладзіміраў — персона № 1 у беларускім джазе.*

ЗаконаТворчасць

# Турцыя без візы?

Сенатары выказаліся наконт чаканай грамадствам адмены віз з Турэцкай Рэспублікай. Дагавор паміж урадам Беларусі і ўрадам Турцыі аб узаемнай адмене падобных дакументаў ратыфікаваны падчас пасяджэння Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу нашай краіны напрыканцы мінулага тыдня. Якія выгоды нам «свецяць» у выпадку, калі дагавор цалкам набудзе афіцыйны «статус»?

Пачнём з таго, што беларускі грамадзянін зможа знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі без афармлення візы ажно 30 дзён. Пры гэтым маецца на ўвазе 30-дзённы тэрмін з даты ўезду. А на працягу года ў гэтую краіну, усё больш папулярную сярод нашых суайчыннікаў, можна будзе патрапляць без візы нават не адзін раз! Праўда, паводле дагавора агульны тэрмін знаходжання не павінен перавышаць 90 дзён.

Аднак… На паездкі з мэтай працы (за выключэннем перавозак пасажыраў і грузаў), вучобы, навуковай дзейнасці, уз'яднання сям'і, пражывання бязвізавы рэжым распаўсюджвацца не будзе.

Каму ж навацыі карысныя ў першую чаргу? Як высвятляецца, не толькі аматарам пляжнага адпачынку. Узаемная адмена віз вельмі важная для нашай дзяржавы (а значыць, для кожнага з нас) у кантэксце Мытнага саюза, бо паміж яго краінамі-ўдзельніцамі бязвізавы рэжым з Турцыяй — ужо рэальнасць.

Пра асаблівасці гэтага дакумента, у тым ліку і палітычны складнік, сенатарам распавёў старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Уладзімір Сянько. Дадзены дагавор, падкрэсліў парламентарый, уступіць у сілу не раней, чым дагавор паміж урадам Беларусі і ўрадам Турцыі аб рэадмісіі, які прадугледжвае стварэнне цэнтра для прыёму і перадачы незаконных мігрантаў і, дарэчы, у хуткім часе таксама будзе прапанаваны на разгляд сенатараў. Гэта значыць, для абедзвюх краін ствараецца надзейны механізм процідзеяння нелегальнай міграцыі.

Калі ж вярнуцца да спраў менш глабальных, то акрамя асабістых вандровак даволі прывабнай падаецца магчымасць здзяйсняць паездкі без віз для правядзення дзелавых перамоў. І не толькі ў сферы эканомікі…

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

# Фальклор гучаў



*Спевакі з гурта «Талака» БДУКіМ.*

У Санкт-Пецярбургу, культурнай сталіцы Расіі, адбылася значная падзея для аматараў народнай песеннай культуры. Цягам тыдня ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце культуры і мастацтваў праходзіў Другі расійска-беларускі агляд-конкурс «Як на рэчцы было на Фантанцы». Яго ўдзельнікі — прадстаўнікі студэнцкай моладзі, якія займаюцца вывучэннем і выкананнем народных спеваў.

Канкурсанты маглі не толькі прадэманстраваць свае выканальніцкія дасягненні ў намінацыях «Народныя спевы» і «Народнастылізаваныя спевы», але і развіць тэарэтычныя і практычныя веды на майстар-класах аўтарытэтных выкладчыкаў.

Мерапрыемствы конкурсу праходзілі ў галоўным будынку Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, які месціцца ў самым сэрцы паўночнай сталіцы Расіі, паміж ракамі Нявой і Фантанкай. Назва апошняй і натхніла ініцыятараў конкурсу на яго правядзенне менавіта пад такой назвай. Наведвальнікі канцэртаў, што прайшлі ў межах творчага спаборніцтва, былі захопленыя разнастайнасцю фальклорнага матэрыялу і ўзроўнем рэпрэзентацыі народнага мастацтва сярод спевакоў. Адметным стылем вылучыліся ўдзельнікі фальклорнага ансамбля Санкт-Пецярбургскага музычнага каледжа імя Мусаргскага.

Прадстаўнікі нашай краіны — студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў — прывезлі з конкурсу адразу пяць дыпломаў. Гурт «Талака» кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ прадстаўляў нашу краіну ў намінацыі «Народныя спевы» і атрымаў два дыпломы — «Гран-пры» конкурсу і дыплом І ступені. Журы адзінагалосна ацаніла ўсебаковую развітасць удзельнікаў гурта, якія прадэманстравалі акапэльна і пад дударскі акампанемент фальклорную песенную і танцавальную спадчыну Беларусі. У намінацыі «Сольнае выкананне» былі адзначаны студэнты кафедры беларускай народнай песеннай творчасці Аляксей Сокараў, Ірына Чубікава і Ганна Чубіна.

Наведвальнікі гала-канцэрта змаглі ацаніць высокі мастацкі ўзровень выканаўцаў-лаўрэатаў фальклорнага конкурсу на сцэне адной з лепшых гарадскіх пляцовак — Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы. Па выніках агляду-конкурсу адбыўся «круглы стол», падчас якога ў чарговы раз была падкрэслена мэтазгоднасць папулярызацыі фальклору сярод моладзі пакалення, значнасць матывацыі і заахвочвання да падтрымкі роднай песні. Бо пакуль гучыць песня народа, народ існуе.

**Вячка КРАСУЛІН**

# Віншуем, партнёры!

Вось ужо 95 гадоў прадпрыемствы сістэмы «Белсаюздрук» з'яўляюцца неад'емнай часткай інфармацыйнай прасторы Беларусі. Дэкрэт Саўнаркама прадпісваў установам паштова-тэлеграфнага ведамства з 1 снежня 1918 года адкрыць ва ўсіх падведамасных установах рознічны продаж газет, часопісаў і кніг. Тым самым ствараліся вялікія магчымасці шырокага забеспячэння мясцовага насельніцтва друкаванымі выданнямі.

Дваццаць гадоў таму віцебскае прадпрыемства «Саюздрук» (адно са структурных падраздзяленняў «Белсаюздруку»), якое было створана яшчэ ў 1970-м і «перажыло» некалькі рэарганізацый, атрымала новую назву — абласное аптова-рознічнае прадпрыемства «Віцебскаблсаюздрук».

З чэрвеня 2000 года арганізацыя набыла новы статус і стала Гандлёвым рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам. «Віцебскаблсаюздрук» плённа развіваецца і пашырае кола сваёй дзейнасці. Рэалізуе перыядычныя выданні, канцтавары, кнігі, праязныя і латарэйныя білеты, прапануе пакупнікам шмат іншай прадукцыі. А яшчэ — аказвае паслугі па падпісцы.

— Амаль трэцюю частку тавараабароту складаюць перыядычныя выданні, — распавяла дырэктар унітарнага прадпрыемства «Віцебскаблсаюздрук» Людміла Гайдук. — Штомесяц рэалізуем больш як 650 тысяч асобнікаў. Асартымент перыёдыкі — гэта 900 газет і часопісаў. Тавараабарот за месяц перавышае 15 млрд. рублёў. З іх больш як 4 млрд. атрымліваем за продаж перыядычных выданняў. Да канца бягучага года плануем рэалізаваць тавараў амаль на 160 млрд. рублёў, выканаўшы паказчыкі развіцця, прадугледжаныя бізнес-планам.

Гандлёвая сетка прадпрыемства прадстаўлена вельмі шырока і налічвае 215 кропак, прычым 75 кіёскаў і павільёнаў знаходзяцца ў абласным цэнтры. Штогод з'яўляюцца сучасныя шапікі новага ўзору. Іх вялікія вітрыны дазваляюць пакупніку пазнаёміцца з багатым асартыментам прапанаванай прадукцыі. Толькі сёлета на абнаўленне гандлёвай сеткі было выдаткавана 890 млн. рублёў.

Сёння ў арганізацыі працуе больш як 500 чалавек. Ва ўмовах моцнай канкурэнцыі і няпростай эканамічнай сітуацыі тут захоўваюць годны ўзровень аплаты працы. Толькі ў гэтым годзе супрацоўнікі «Віцебскаблсаюздруку» з задавальненнем наведалі Кіеў, Адэсу, Нясвіж, Мір, Гомель.

Прадпрыемства актыўна ўдзельнічае ў культурным і грамадскім жыцці вобласці. Летась да Дня беларускага пісьменства ў г. Глыбокае была адчынена кнігарня «Глобус», дзе ладзяцца розныя мерапрыемствы і акцыі, сустрэчы з пісьменнікамі. Цяпер прадпрыемства рыхтуецца да Рэспубліканскага свята-кірмашу працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2014», якое будзе праходзіць у г. Гарадок. Старыя кіёскі ўжо заменены на новыя, зроблены рамонт у памяшканні Гарадоцкага аддзялення.

«Віцебскаблсаюздрук» уваходзіць у склад Саюза выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку. Штогод яго прадстаўнікі бяруць удзел у міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах, канферэнцыях выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў друкаванай прадукцыі.

**Раіса МАРЧУК**

# Райніс у Доме Купалы

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы працуе выстаўка «Я вам прынёс напеў зямлі бацькоўскай», прысвечаная жыццю і творчасці Яна Райніса, сусветна вядомага латышскага паэта, перакладчыка, драматурга, філосафа, грамадскага дзеяча.**

Фота Вольгі Пархімовіч



Падчас адкрыцця выстаўкі.

Экспазіцыя створана супрацоўнікамі латышскіх музеяў Райніса і Аспазіі (жонкі паэта), а ў Беларусі прадстаўлена дзякуючы пагадненню аб супрацоўніцтве, заключанаму паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры Латвійскай Рэспублікі на 2013 — 2015 гады. Гэта дазваляе чакаць яшчэ не адной падобнай выстаўкі.

Аднак імя Райніса вядомае беларусам і без афіцыйных пагадненняў. Латышскага генія нацыянальнага адраджэння часта параўноўваюць з Янкам Купалам. У іх і вершы ёсць вельмі падобныя. Так, актрыса Ала Доўгая зачытала па адным творы кожнага паэта, якія, дарэчы, называюцца аднолькава — «Сосны». Янка Купала і Ян Райніс нават былі знаёмыя. Яны сустрэліся ў 1926 годзе, калі латышскі паэт прыехаў у Беларусь на навуковую нараду па праблемах беларускага правапісу. Гэта быў першы візіт Райніса ў нашу краіну. Цікава, што пасля нарады гасцей павезлі ў Віцебск на адкрыццё БДТ-2 — цяперашняга тэатра імя Якуба Коласа.

І гэта толькі малая частка ўсёй інфармацыі, прадстаўленай на выстаўцы. На 17 стэндах змешчаныя фотаздымкі Райніса — ад маленства да апошніх гадоў — і яго жонкі, паэтэсы Аспазіі, таксама — фота «райнісаўскіх» мясцін, аўтографы паэта, ілюстрацыі і вокладкі яго кніг. І, канечне, шмат цікавых фактаў, цытат, урыўкаў з дзённікаў. Так, вы можаце даведацца, якім чынам Ян Райніс быў звязаны з беларускай культурай да таго, як апынуўся ў самой Беларусі. А яшчэ — пра яго дзяцінства, адносіны з жонкаю, ролю 1905 года ў жыцці паэта, пра адметнасць паэмы «Даўгава» і жыццё ў Швейцарыі, пра тое, чаму Райніс стаў Райнісам і як ён звязаны з «Фаўстам» Гётэ.

Акрамя стэндаў тут прадстаўлены асабістыя рэчы Яна Райніса і кнігі, якія падарылі яму беларускія пісьменнікі: Кузьма Чорны, Якуб Колас, Цішка Гартны, Уладзімір Дубоўка, Янка Купала ды інш.

Адкрывалі выстаўку Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвійскай Рэспублікі ў Беларусі Міхаіл Папкоўс, супрацоўнікі музеяў Райніса і Аспазіі ў Латвіі, паэт Сяргей Панізнік і інш. Наведаць яе можна да 15 снежня.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Радзівілаўскае метро ды беларускі Мюнхгаўзен

**Загадкавы лёс Нясвіжскага замка і яго насельнікаў імкнуліся спасцігнуць многія пакаленні гісторыкаў і літаратараў, бо гэта — захаванне нацыянальных культурных традыцый, амаль свяшчэнная справа. Адзін з такіх даследчыкаў — Анатоль Бутэвіч, аўтар кнігі «Таямніцы Нясвіжскага замка. Падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем», — сустрэўся з чытачамі 15 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**

Фота Кастуся Дробава



У зале партрэтаў Радзівілаў, пад уважлівымі позіркамі велічных магнатаў, гутарка зайшла пра сапраўднае, дакументальнае і тое, што здаецца неверагодным. Анатоль Бутэвіч распавёў шмат займальнага: пра Радзівілаўскую дзяржаву і яе гаспадароў — некаранаваных каралёў, цыганскую рэзідэнцыю ў Міры, падземны шлях, ці метро беларускага Мюнхгаўзена — Пане Каханку, загадкавае знікненне 12 залатых апосталаў. Зразумела, што пра гэта і іншыя цікавыя рэчы лепей даведацца больш падрабязна з яго кнігі. Нават не адной. Анатоль Бутэвіч — аўтар шматлікіх выданняў, сярод якіх серыя «Сем цудаў Беларусі», дзе згадваюцца Мірскі замак, Брэсцкая крэпасць, статут Вялікага Княства, Слуцкія паясы, Няміга, Полацкі Сафійскі сабор і іншае, не менш для краіны значнае. Але вернемся да Нясвіжа.

«Старажытныя магнацкія роды, нашыя продкі трымаюць магутнае беларускае дрэва. Карані яго — гістарычнае мінулае, ствол — цяперашняе жыццё, а крона — будучыня. Калі мы не будзем ведаць карані, то і ствол не ўтрымаецца», — мяркуе Анатоль Бутэвіч.

Галоўны рэдактар «Краязнаўчай газеты», старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп зазначыў: «Анатоль Бутэвіч — абаронца беларускай спадчыны, адметны краязнавец, пісьменнік і літаратар з цікавай асаблівасцю: моцнай верай, нават у фантастычнае. Ён можа гадзінамі праводзіць у бібліятэцы і вышукваць дробныя, непрыметныя на першы погляд факты і дэталі, вакол якіх і аднаўляецца гісторыя».

На імпрэзе было прадстаўлена новае выданне А. Бутэвіча, яшчэ «цёплае», толькі што з тыпаграфіі, — «Паміж Княствам і Каронай». Гэта другая, больш дакументальная частка знакамітага рамана «Каралева не здраджвала Каралю» з серыі «Святло мінуўшчыны».

Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут, павіншаваўшы свайго аўтара, адзначыла, што пісьменнік не проста фіксуе падзеі, а прапускае гісторыю праз сэрца. Па яе словах, гістарычны кірунак ужо стаў для выдавецтва традыцыйным. Беларускі паэт, галоўны дырэктар радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч, у сваю чаргу, падкрэсліў, што падобныя выданні дапамагаюць кожнаму ўсвядоміць прыналежнасць да сваёй Радзімы, мовы і культуры.

Вядома, што Радзівілы любілі мастацтва і самі яго стваралі. Падчас імпрэзы прагучалі вершы Францішкі Уршулі Радзівіл пра каханне ў выкананні народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Лірычную хвалю падхапіў народны фальклорны ансамбль «Тутэйшая шляхта» (БДУ), прапанаваўшы слухачам старадаўнія мелодыі і сцэнкі шляхецкага жыцця — смешныя ці разважлівыя.

Анатоль Бутэвіч выказаў шчыры спадзеў, што ў будучым свет пабачыць шматтомная энцыклапедыя пра Радзівілаў. Ён упэўнены: знакаміты род ніколі не будзе вычарпаны да канца ў сваім жыццяпісе, тут гісторыкам заўсёды хопіць працы: «Трэба ганарыцца сваёй Радзімай, бо як ты ставішся да Беларусі, так і яна да цябе».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Паяднаныя Нёманам

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстаўка, прысвечаная творчасці Крысціёніса Данелайціса, з нагоды 300-годдзя паэта і 90-годдзя паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». У адкрыцці ўзяў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эвалдас Ігнатавічус.

Крысціёнісу Данелайцісу належыць паэма «Чатыры пары года», якая лічыцца візіткай літоўскай літаратуры. Твор распавядае пра побыт і працу селяніна, пра харавство і з'явы прыроды ў розныя поры года, таму ўспрымаецца як выдатная адпаведнасць Коласавай «Новай зямлі». Як адзначыў спадар Пасол, сімвалічна, што абодвух класікаў і месца дзеі іх твораў яднае «бацька Нёман»: каля яго вытокаў — рэчаісансь «Новай зямлі», у вусці — край «пораў года» (цяпер — Калінінградская вобласць).

Абедзве паэмы ствараліся ў крызісныя часы. У Літве XVII ст. — час жорсткага ўціску з іншаземнага боку (нямецкага, швейцарскага, французскага), напаўпрыгоннага стану літоўскіх сялян. У Беларусі пачатак мінулага стагоддзя — час татальнай нястачы зямлі і залежнасці сялян ад магнатаў. Літоўскі паэт імкнецца скіраваць прыярытэты землякоў у «кансалідацыйны» бок: і паны, і сяляне ёсць перадусім літоўцы і людзі. Беларускі класік ставіць акцэнт на гаспадарчай і, урэшце, асобаснай самастойнасці селяніна.

Нягледзячы на адрозненне, абумоўленае гістарычнымі абставінамі, абедзве паэмы ўяўляюцца адзіным цэлым ва ўспрыманні нашага сучасніка, які ўсё больш і больш мусіць быць ізаляваным ад прыроднага ўлоння і народнага побыту.

У вечарыне з нагоды прэзентацыі ўзялі ўдзел народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, доктар філалагічных навук, прафесар БДПУ імя Максіма Танка і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Галіна Адамовіч разам са сваімі студэнтамі, прадстаўнікі Калінінградскага абласнога гісторыка-мастацкага музея. Урыўкі з паэмы «Новая зямля» выканаў малодшы сын паэта Міхась Міцкевіч, радкі твора К. Данелайціса — артысты Беларускага радыё.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні паэту Андрэю Смятаніну з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.

## Абрысы

Узнагароды спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў уручылі ўчора 68 студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сярод іх — тыя, хто атрымаў стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пераможцы рэспубліканскіх конкурсаў навуковых работ, міжнародных алімпіяд і ўніверсіяд. За асаблівы ўнёсак у развіццё здольнасцей адораных студэнтаў і навучэнцаў пасведчаннямі фонду ўзнагароджана таксама 13 супрацоўнікаў ВНУ. Акрамя таго, віншаванні прымалі пераможцы конкурсу на лепшую навуковую працу студэнтаў БДУ.

Заўтра а 16-й гадзіне ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у межах выстаўкі «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» са збораў музеяў Расіі, Сербіі, Украіны і Беларусі адбудзецца адкрыццё рэтраспектыўнага паказу фільмаў-прызёраў Міжнароднага фестывалю хрысціянскіх дакументальных фільмаў і тэлепраграм «Magnificat». У адкрыцці возьме ўдзел беларускі дакументаліст, аператар, сцэнарыст, кінарэжысёр, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», прэзідэнт фестывалю Юрый Гарулёў. Штовечар з 23 лістапада па 5 снежня будуць праходзіць прагляды фільмаў, дыскусіі, сустрэчы.

Персанальная выстаўка керамікі Ліліі Нішчык «Рэальнае і міфічнае ў скульптуры» адкрылася ў Музеі гісторыі горада Мінска. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 20 работ, створаных майстрам за апошнія чатыры гады. У свой час мастачка скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Член Беларускага саюза дызайнераў і Беларускага саюза мастакоў, удзельніца міжнародных, рэспубліканскіх і шэрагу персанальных выставак. Работы скульптара знаходзяцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Замкавым комплексе «Мір», Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Францыі, у Германіі, у прыватных калекцыях Беларусі і за мяжой.

Імпрэза «Масты дружбы» прайшла ў сталічнай бібліятэцы № 21. На сустрэчу з чытачамі, вучнямі сярэдніх школ прыйшлі члены Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Аліна Легастаева, Яніна Жабко, Лізавета Палеес і Ірына Тулупава. Вёў імпрэзу старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Ён пазнаёміў слухачоў з міжнароднымі праектамі, наладжанымі творчым саюзам, распавёў пра стасункі з літаратарамі замежжа. Была прэзентавана кніга «Поціск рук над Басфорам», якая выйшла ў свет пасля наведання дэлегацыяй мінскіх творцаў культурнай сталіцы Турцыі — горада Стамбула.

Настасся НАРЭЙКА



## «Я трымала каханне маё за руку...»

* * *

*Гэта проста ніхто не сказаў,*
*Што нам нельга назад.*
*Гэта проста і думкі такой*
*Не было ў галаве.*
*Мы ішлі. І халодная раніца*
*Біла ў набат.*
*Мы ішлі. І я знала,*
*Што ён тут даўно не жыве.*

*Мы ішлі. Я трымала*
*Каханне маё за руку.*
*І яго слепата*
*Паратункам была для мяне.*
*Дзякуй, Бог, што не бачыць яно*
*Слёз Нямігу-раку,*
*Што не бачыць разбітыя шыбы*
*Ў маленькім акне!*

*Заімшэлы парог.*
*Мы заўсёды ішлі басанож.*
*Павуцінне ўгары, нібы карта —*
*Куды нам брысці.*
*І праменьчык святла*
*Разразае сутонне, як нож.*
*За парог! Не баялася так*
*Я ніколі ў жыцці.*

*Цішыня. Апускаецца пыл*
*На далоні, як снег.*
*У люстэрку няма, не знайсці*
*Нават следу майго.*
*І гадзіннік стары*
*Прыпыніў запаволены бег.*
*І каханне гаворыць, бы ў сне:*
*«Я не бачу яго».*

*Ты не ўбачыш яго?*
*Мне шкада. Гэтых слоў вастрыё...*
*Ты не ўбачыш яго,*
*Не спрабуй, не пакутуй дарма.*
*Не таму, што цяпер ты сляпое,*
*Каханне маё,*
*А таму, што яго*
*Ані тут, ані ў свеце няма.*

*Аніколі яго не было*
*На халоднай зямлі.*
*Вось і восень прыйшла.*
*Развітанне. Вяртанне. Жніўё.*
*Гэты дом пуставаў,*
*Тут стагоддзямі, знай, не жылі.*
*Ён — пустое, застылае,*
*Горкае сэрца маё.*

* * *

*Часам бывае:*
*Вяртаюся позна дахаты.*
*Бразнуць ключы,*
*І люстэрка мяне адштурхне.*
*І заплача гадзіннік стары*
*На блакітнай сцяне.*
*І слёзы як выбух.*
*Ты ў гэтым адзін вінаваты.*

*Твой капялюш.*
*Парасон... Дождж цяпер не бяда.*
*І пальчатка адна*
*З непраўдзівае левай рукі.*
*Ты пакінуў мне ЎСЁ*
*І ТУДЫ паспяшаў напрамкі.*
*Ты пакінуў МЯНЕ.*
*Ты казаў: «Мне пара. Мне шкада».*

*ТАМ не ведаюць, пэўна,*
*Што ТУТ без цябе — не жыццё.*
*ТАМ не ведаюць, пэўна,*
*Што я не пакіну як ёсць,*
*Што прыйду па цябе.*
*Сустракаць не патрэбна: не госць.*
*Я прыйду, каб забраць,*
*Бо не веру, што ёсць забыццё.*

*І сустрэнуць мяне*
*Каля Вечнае брамы Яны.*
*І спытаюць Яны,*
*Што зарана сюды прывяло.*
*І заплачу наўзрыд,*
*І пра ўсё раскажу, як было.*
*Нібы рэха вайны,*
*Загудуць у сутонні званы.*

*І падымуць з калень,*
*І расчыніцца брама — ідзі.*
*І сукенка мая*
*Стане белай, як ранішні снег.*
*Я паволі пайду.*
*Не сарвацца б мне толькі на бег!*
*Недзе сэрца прыціхла.*
*Прашу цябе, сэрца, вядзі!*

*І яно прывядзе. Абдыму —*
*Свет зазззяе наўкол.*
*Адшукаю на спіне тваёй*
*Знак, дзе рана была,*
*І адчую, як рэжацца...*
*Белае пер'е крыла.*
*Я спазнілася, любы...*
*Як шкода,*
*Мой Божы анёл!*

*Пацалуеш у лоб,*
*Як малое, сляпое дзіця,*
*І павернеш да брамы.*
*Назад. Як зрабіць гэты крок?*
*Я пайду. І за спінаю — змрок,*
*І наперадзе — змрок.*
*Я пайду, бо я знаю адно:*
*ТАМ няма забыцця.*

Янка ЛАЙКОЎ



## Тайна

*Двое стаялі ля Вышняй Брамы,*
*насустрач Анёл ім выйшаў:*
*«Вы хто?» —*
*«Мы шукаем праўды,*
*але не зямной, а вышняй».*

*Тады Анёл Аднаго паклікаў:*
*«Ідзі, для цябе адчыняю Браму!»*
*І той увайшоў у праём.*
*І знік ён.*
*І ўслед яму гучала: «Абраны...»*

*«Чаму? —*
*запытаўся пасля нябога, —*
*За Брамай —*
*якаясь тайна?»*
*Анёл прашаптаў:*
*«Там няма нічога...»*
*І зарыдаў адчайна.*

## Той бераг

*Я памятаю, як Рака*
*гайдала ў водах цьмяных човен.*
*І нехта ў апранахах чорных*
*усіх, хто пазніўся, гукаў.*

*І ў цэмры нараджаўся стогн,*
*імкнуў да столі невідочнай.*
*Чакалі мы.*
*І нашы вочы*
*пыталі марна: «Дзе ты, Бог?»*

*Шырэлі на вадзе кругі,*
*шырэў адчай*
*на тварах шэрых.*
*І аддаляўся ў цемру бераг,*
*і набліжаўся той, другі.*
*Міналі хвілі, як гады,*
*трымцеў і нёсся ўгору пошчак.*
*І мы спыталі:*
*«Перавозчык!*
*Куды вязеш ты нас, куды?»*

*І не пачулі мы адказ:*
*«У Небыццё вязу я вас!..»*

* * *

*Дванаццаць свечак на куце,*
*і кожная —*
*згарае.*
*А велізарны смутны цень*
*на хату наступае.*

*Ратуе толькі нас агонь —*
*гарачы,*
*аж балючы.*
*І гэты сон вякоў спакон*
*трываць,*
*трываць нас вучыць.*

* * *

*Крывёю срэбнай маладзік брыняе,*
*расце і спеліцца,*
*каб ветахам сканаць.*
*Хто ён такі,*
*навошта ён — не знае,*
*не дадзена яму таго спазнаць.*

*І, непрытомны,*
*сярод цьмы блукае,*
*шукае, каб дзе назаўжды спачыць.*
*Страчае зоры зрэдзь і іх куляе*
*адчайна ў чэрава сляпой начы.*

* **

*Замчышчы тугі праступаюць скрозь*
*цьмяныя абрысы далёкіх гор памяці*
*і крывёю барвяняць світанак мой.*

*А дзесьці вецер ціха напявае песню,*
*якую я не даспяваў яшчэ ў маленстве,*
*і дрыжаць павекі стомленых вачэй.*

*Рэха кахання гучыць у апошні раз,*
*цвеліцца самотнае цяпельца ля маіх ног.*
*Я — у краіне мрояў ужо даўно.*

* * *

*Ад маёй самоты да тваёй —*
*вырай,*
*беспрытульны і далёкі,*
*дзе ў высокай прасторы сівой*
*мрояць волю белыя аблокі.*
*Ад майго кахання да твайго —*
*сто гадоў пакутнага маўчання,*
*не ў чаканні літасці багоў,*
*а ў тузе —*
*па-чорнаму адчайнай.*

*Ад маёй магілы да тваёй —*
*вечнасць, што ніколі не спачыне.*
*Выбачай, што быў нядбалы вой*
*твой, мая каханая Айчына.*

***

*А маладзік натхнёна ззяў,*
*святло кідаў у вокны хаты.*
*З-за шкла ж самотна пазіраў*
*на зімку дамавік кудлаты.*

*Крактаў, нябога, лаяў снег*
*за тое, што насыпаў гурбы...*
*А нейкі чорны чалавек*
*працёмнай ночы зведваў згубу.*

*У мройных пацерках — бяда,*
*у завірусе белай — скруха,*
*у бляклых зерках — д'ябла дар —*
*схаваны боль, што вые глуха.*

## Сказ пад Каляды

*Калі пачынаецца вечар зімовы доўгі —*
*знікае самота. Аловак крыжуе дарогі,*

*Марозныя ўзоры на шкле пакрысе*
*люструюць бясконцых снягоў карусель,*

*Самотныя блікі стамлёнай прыроды*
*ў забеленай пустцы вядуць карагоды,*

*а гляну — звычайны ўзор на вакне...*
*Ці праўда было, ці прыснілася мне:*

*з далёкіх краёў сам Мікола Святы*
*прыйшоў асвяціць нашы душы й куты.*

## Зорка

*Толькі што ў нябёсах палала*
*і вось апала*
*зорачка.*
*І толькі самыя чуйныя на зямлі*
*(няйначай, паэты) пачулі,*
*як жалілася яна й плакала,*
*скочваючыся Млечным Шляхам*
*у прадонныя тоні начы.*

*Прыслухайцеся —*
*гэта яна там*
*плюскоча,*
*плюскоча...*

Уладзімір ЦІШУРОЎ



## Бяроза на шляху

*Пазіралі шляхі*
*на імхі,*
*Прахалода плыла*
*з ручая,*
*І была на шляху нічыя*
*Гаманлівая*
*ў мроях бяроза.*
*Пад бярозай*
*мой прашчур прыбраны*
*Зазіраў у вочы каханай.*
*І душа адгукалася*
*спеўна*
*Ручаю*
*і зямлі ўсёй, напэўна.*
*Ад мелодыі*
*светлай кахання*
*Ноч давала дарогу*
*світанню*
*І раса кропляй*
*сонца зіхцела,*
*І каханым*
*у вочы глядзела —*
*Ад таго, уначы,*
*кахання*
*Род, як кветка, у часе*
*не звяне.*
*...Сёння ўжо*
*і бяроза старая*
*Тую ноч, як сон,*
*прыгадае.*
*І — галіны пад ветрам*
*Гайдае, гайдае,*
*як калыску*
*Калісьці —*
*пара маладая!*

*...Век надзею*
*сваю гайдае*
*І на долю і шчасце*
*варожыць, гадае...*

## Спадзяванне

*Сэрцу пачуцця вясняна*
*Пры сустрэчы*
*з паннай Святланай,*
*Шукаюць шляхоў*
*ручаіны*
*Ў раку пяшчоты*
*няспынна,*
*Ў раку любові,*
*кахання...*

*Сустрэчы прайсці*
*з азіраннем...*
*Халодная пані,*
*Дарэмныя зноў*
*спадзяванні...*
*Каханне ж яшчэ*
*не астыла —*
*Бруіцца праз сэрца*
*паныла.*

## Маўчане

*Я журбе,*
*Як смузе,*
*Пад'ярэмны*
*І страчаю цябе*
*Дарэмна...*
*Сумна*
*Мне*
*Пры сустрэчы...*
*Толькі Бог*
*Усё робіць дарэчы*
*І вядзе людзей —*
*На сустрэчу.*
*Ці наш Бог*
*Зразумець*
*Нас не змог?*
*Памаўчаць у журбе*
*Ля Маўчаны —*
*Зноў сымляць і пякуць*
*Мае раны.*



# Мікола АДАМ

# Начныя госці

*Апавяданне*

Змора паланіла яго пад самае змяркнанне, калі цені ад дрэў выраслі, а цяжкая гнятлівая імгла насунулася на хутар.

«Чух-чух-чух…» — грукатала недзе побач. Гэтыя гукі ўнеслі ў свядомасць старога нейкі неспакой, ад чаго ён і прачнуўся. Зірнуў у акно: цягнік усё яшчэ цягнуў сваё чорнае, нібы чарвяк, цела. Большасць вакон былі завешаны фіранкамі, але дзе-нідзе яны былі рассунутыя, і стары бачыў, як там усміхаюцца чырвоныя твары, як спрытныя рукі адкаркоўваюць бутэлькі і разліваюць пітво.

Цягнік спыніўся, і там, далей, ля станцыі, замёр. Стары ведаў: стаянка — тры хвіліны, пасля цягнік зноў завуркоча і выправіцца ў далейшае падарожжа, а праз тры дні яшчэ раз праедзе тут, і ўсё паўторыцца, як сёння. Стары ўсміхнуўся і пайшоў гатаваць сабе гарбату. Потым, седзячы ў мяккім фатэлі перад тэлевізарам, з экрана якога на яго пазіралі то руля вінтоўкі, то нерэальнай прыгажосці вочы нейкай дзяўчыны, у якую закахаліся два каўбоі-сябрукі, маленькімі глыткамі піў свой упадабаны напой. Яму можна было даць і ўсе 60 гадоў, і 40, бо твар выглядаў даволі маладым, без усялякіх зморшчынак, толькі зусім белыя валасы ды такая ж барада больш-менш старылі яго.

Стары ўключыў радыёпрыёмнік — па сутнасці, свайго равесніка, — выключыўшы тэлевізар. Відаць, разборкі Білі і Тэда яму не спадабаліся.

«Заўтра па ўсёй тэрыторыі рэспублікі, — распавядаў хрыплым, мабыць, прастуджаным голасам, дыктар, — чакаецца моцны снегапад, месцамі завіруха, тэмпература паветра ўдзень…»

Што там будзе ўдзень, стары недаслухаў, раптам угледзеўшыся ў абклееную шэрымі шпалерамі, месцамі пачарнелую столь. Ад яе да самага абажура лямпы была працягнута сетка павуціны. Сам павук сядзеў крыху далей і чакаў ахвяру. Стары памятаў, што яшчэ два месяцы таму, напрыканцы восені, гэты павук быў вялізны і тлусты, бо яму заўжды трапляліся розныя казюркі. Цяпер павук прыкметна паблажэў, амаль знерухомеў. «Зусім як я, — падумаў стары, — здзічэў тут адзін на хутары». Ён напружыў памяць, прыгадваючы, калі і хто апошнім часам да яго заходзіў. Толькі паштарка на мінулым тыдні прынесла пенсію. І таму здзівіўся, нават спалохаўся, калі нехта пастукаўся ў дзверы. Стук быў нязвыкла ціхі, але патрабавальны. «Цікава, хто гэта прыцёгся ў такую пару, калі ўсе нармальныя людзі даўно ўжо спяць?»

— Хто там? — спытаўся ён, і ўласны голас здаўся яму незнаёмым і чужым.

— Калі ласка, адчыніце! — на запыт старога азваўся звонкі і ў той жа час стомлены жаночы голас.

Стары вагаўся. Ён вырас на спагадзе да людзей, але гэты выпадак быў выключным. Стаяла ноч, у Чачні толькі-толькі перасталі страляць, а ў Таджыкістане баевікі спынялі аўтобусы з мірнымі жыхарамі, выводзілі старых, мужчын і хлапцоў і расстрэльвалі, да таго ж ноч — родная сястра крымінальнікаў. Аднак жа дзяўчына, адна… і тут, у глушы… таксама насцярожвае. Хаця, калі падумаць, можна ўсё проста растлумачыць: яна выйшла з цягніка, што не так даўно праязджаў, каб перасесці на іншы, а той адмянілі. На станцыі нікога няма дый холадна. Вось і параіў ёй нехта падацца да ягонага хутара.

— Доўга мне яшчэ чакаць? Не з'ем жа я вас, у рэшце рэшт…

Апошнія словы, магчыма, і падштурхнулі старога прыняць канчатковае рашэнне. Ён працягнуў руку да дзвярнога замка… дзверы прачыніліся. На парозе стаяла зусім маладзенькая дзяўчына, расфарбаваная пад вамп, апранутая ў пухнатае — відаць, дарагое — футра.

Стары адступіў крыху ўбок, даючы дзяўчыне прайсці ў хату. Тая ўпэўнена зайшла ў пакой, села ў фатэль, закінуўшы ногі ў высокіх батфортах на стол, дастала з кішэні пачак імпартных цыгарэт, выцягнула адну, пачак кінула на стол.

— Агеньчыка не знойдзецца? — папытала яна.

Збянтэжаны паводзінамі нечаканай госці, стары не варухнуўся. Такой нахабніцы ён ніколі не сустракаў. На яго думку, уся прыгожая палова чалавецтва павінна была быць увасабленнем сціпласці і чысціні. Тое, што ён бачыў цяпер, цалкам супярэчыла яго разуменню, хаця, не адмаўляў ён, дзяўчына была вельмі прыгожай. Нягледзячы на яе прыгажосць, стары спытаў усё-ткі, колькі ёй гадоў.

— У-у-у-у, — працягнула тая. — Будзем гуляць у бацькоў і дзяцей? Я прасіла падкурыць, ці і на гэта нашы мужчыны ўжо не здатны?

Стары сумеўся. У яго нават на колькі імгненняў перахапіла дыханне, з'явілася думка выгнаць дзяўчыну з хаты. Але ў апошні момант ён перадумаў. На дварэ стаяў моцны мароз, а ў такое надвор'е добры гаспадар нават сабаку не пагоніць на вуліцу. Тым больш, як ведаў, навокал, у радыусе сямі кіламетраў, няма ніводнай жывой душы. А дзяўчына, відаць, сагравалася патроху, пачала шморгаць носам, праўда, цяпер ужо крыху саромеючыся.

Стары выцягнуў з кішэні пачак запалак і кінуў ёй на стол.

— Дзякуй, — дзяўчына звыклым рухам правяла запалкай па пачку зверху ўніз, — вы сапраўдны джэнтльмен, — дадала і выпусціла ў паветра струменьчык тытунёвага дыму. Стары пачуў пах ментолу.

— Навошта вы курыце? — спытаўся ён.

— Каб вы спыталі. Толькі не трэба чытаць мне лекцыі, што курыць непрыгожа, — прыпыніла яна яго. — Я і без вас цудоўна ведаю, што ад курэння нараджаюцца сінія і зялёныя дзеці, але нараджаць я не збіраюся бліжэйшыя дзесяць гадоў, тым больш ад такога сексуальнага гіганта, як вы.

Стары пачырванеў і крыху хрыплаватым голасам адказаў:

— Я не тое меў на ўвазе.

— Тады, — дзяўчына борзда скокнула з фатэля да старога, апекшы таго сваім гарачым подыхам, — тады я вам скажу, што вы мелі на ўвазе…

— І што? — стары міжволі адкаснуўся ад яе.

Дзяўчына пераможліва ўсміхнулася, зірнула на яго, як гераіня Умы Турман з «Крымінальнага чытва», і вярнулася да фатэля.

— Вы хацелі прапанаваць мне кубачак кавы ці пачаставаць вінам? — аблізнула яна вусны.

Угледзеўшы, што стары апусціў вочы, дзяўчына развяла рукамі.

— Усё зразумела. У вас няма ні першага, ні другога.

— Чаму ж, у мяне ёсць гарбата, — запярэчыў стары.

— Што такое гарбата? — не зразумела дзяўчына.

— Чай, — патлумачыў стары.

— Давайце чай, калі няма нічога лепшага, — пагадзілася дзяўчына, страсаючы попел указальным пальцам з цыгарэты на стол, амаль ля пачка.

— Тады пачакайце. Я зараз запару, — прамовіў стары і накіраваўся на кухню.

…Калі стары з імбрычкам увайшоў у пакой, дзяўчына, паставіўшы адну нагу на стол, падцягвала чорныя, у сетачку, калготы. Футра яна зняла. З-пад джынсавай кашулі пукаціліся круглыя яблыкі грудзей. Стары кашлянуў і адвярнуўся.

— Ужо можна, — прамовіла дзяўчына, падцягнуўшы калготы.

Стары паставіў на стол чайнік і дастаў з шафы шклянкі.

— Вы любіце моцную гарбату? — спытаўся ён.

— Дванаццаць лыжак цукру, не размешваючы, калі ласка, — пажартавала дзяўчына.

— Я так і зразумеў, — першы раз усміхнуўся стары. Усмешка яго падалася дзяўчыне вельмі прыгожай.

— Чаму вы так рэдка ўсміхаецеся? — спытала яна. — У вас амаль галівудская знешнасць. Нешта накшталт Чака Норыса і Шона Конэры.

— Піце гарбату — ухіліўся ад адказу стары.

— Ага, зразумела… Ваенная тайна? — прамовіла яна і крыху адпіла гарбаты. — Што гэта за брыдота?.. — зморшчылася раптам дзяўчына.

— Вы самі прасілі, — зноў усміхнуўся стары. — Дванаццаць лыжак, не размешваючы.

— Я хоць і люблю салодкае, але не да такой жа ступені! А вы што, сур'ёзна насыпалі дванаццаць лыжак? — не паверыла яна.

— А як вы думаеце?

Дзяўчына на гэта нічога не адказала. Паставіла шклянку на стол, раптам прамовіла:

— Мяне завуць Алеся.

— Вы наўмысна чакалі моманту, каб назваць сябе? — спытаў стары і сеў насупраць дзяўчыны, падсунуўшы бліжэй да стала табурэтку.

— А як вы думаеце?

— Я думаю, што вам проста не спадабалася гарбата, — адказаў той і дадаў: — Між іншым, яна прыгатавана з лекавых траў. Вельмі карысная для здароўя.

— Вы не назваліся, — перапыніла яго Алеся.

— Вам сапраўды патрэбна ведаць маё імя?

— Я ўявіла, што вас завуць Шарык.

— Як вам будзе заўгодна.

— Не, а ўсё-ткі…

— Віктар Кузьміч, — урэшце выдаў ён.

— Дык вось, Віктар Кузьміч, — утаропіла на старога свае вялікія шакаладныя вочы Алеся, — я ў вас застаюся начаваць. Вы не супраць?

Стары ледзь не папярхнуўся.

— А калі я буду супраць? — паволі вымавіў ён — Тады што?

— Нічога, — паціснула плячыма Алеся. — Я ўсё роўна застаюся. Не прагоніце ж вы мяне на мароз, у ноч, дзе выюць ваўкі, такую прыгожую дзяўчыну…

Яна не дагаварыла: у дзверы рашуча і настойліва пагрукалі.

— Па-мойму, — прамовіў стары, зірнуўшы ў акно, быццам там можна было нешта разгледзець, — яшчэ нехта прыгожы складзе вам кампанію.

— Хто там? — асцярожна спытаў стары.

— Я!!! — пачулася ў адказ.

— Свае ўсе дома! — гучна вымавіла Алеся з-за спіны старога. Стары з дакорам паглядзеў на яе.

— Адчыняйце! — яшчэ мацней затарабаніў у дзверы невядомы. Але раптам грукат як нечакана пачаўся, гэтак жа і сціх. Той, хто быў за дзвярыма, дадаў ужо больш лагодна: — Ды што вы, не людзі, ці што?

Стары падышоў да дзвярэй і шчоўкнуў замком. У думках ён ужо даўно запрасіў нечаканага госця ў хату. Магчыма, старога да спагады да незнаёмага падштурхнула тая чыстая беларуская мова, якой той гаварыў. Ад яе, здаецца, дыхнула нечым родным і блізкім. Алеся ж, як магла, намагалася размаўляць па-гарадскому. Стары сам вельмі любіў родную мову і радыё слухаў толькі з гэтае прычыны, тэлебачанне ж наносіла яму, старому, сапраўдную рану, накшталт той, якую ён атрымаў на Даманскім. Толькі цудам тады выжыў.

Крыху хістаючыся, незнаёмы ўвайшоў у хату і прыхінуўся спінай да сцяны. Гэта быў малады чалавек гадоў дваццаці пяці, невысокі, хударлявы, з доўгімі валасамі і трохдзённай няголенасцю, апрануты ў джынсы і баваўняную куртку. На плячы яго вісеў скураны карычневы партфель.

— Ну, праходзь, — мовіў стары.

Хлопец паслухмяна прайшоў на сярэдзіну пакоя і сеў у прапанаванае старым крэсла. Убачыўшы насупраць сябе дзяўчыну, што зацята пускала дым угару, усміхнуўся і, абапёршыся аб стол, запытаў:

— Дзяўчына, а ты хто?

— А ты хто? — адказала Алеся.

Хлопец панурыў галаву, праз колькі секунд зноў запытаў:

— Ты дачка гэтага старога ці хто?

Алеся дэманстратыўна адвярнулася, праігнараваўшы апошнія словы незнаёмага. Той зноў усміхнуўся сваёй бяссэнсавай на першы погляд усмешкай і палез у партфель. Праз момант на стале стаяла пляшка каньяку.

— Вось што ў мяне ёсць! — пераможна, з ноткай нахабства ў голасе амаль выгукнуў ён.

Алеся крыху зварухнулася. Зрабіла апошнюю зацяжку, падалася наперад і кінула недапалак у шклянку з недапітай гарбатай.

Да стала падышоў стары. Увесь гэты час, стоячы непадалёк, ён моўчкі сачыў за маладымі людзьмі.

— Віктар Кузьміч, — звярнулася да яго Алеся, — што вы на гэта скажаце?

— На што «на гэта»? — у сваю чаргу запытаў той.

— Каньяк, напрыклад.

— Карацей, Кузьміч, — вымавіў хлопец, — яна твая дачка?

— Не.

— Тады за гэта трэба выпіць. Стары, будзеш піць ці не?

— Я буду, — мовіла Алеся.

— Дзяўчына, а ты хто, чуеш? — зноў спытаў хлопец. — Ты не дачка Кузьміча, хто тады?..

— Яна проста прыгожая дзяўчына, — перапыніў яго стары. — Табе такога адказу павінна хапіць.

— Чаму ты, стары, так лічыш?

— Таму, што ты размаўляеш па-беларуску, а па-беларуску, па сутнасці, размаўляюць толькі паэты.

— А ты, стары, таксама паэт?

— Я не паэт, але цябе ведаю, — адказаў стары і, звяртаючыся да Алесі, дадаў: — Ён сапраўды добры паэт. — Зноў да яго: — Мікіта Біч, ці не так?

Нечакана сэрца старога пачало нібыта біцца шпарчэй, як птушка, што трапіла ў сіло, у вачах пацямнела. Паведаміўшы гасцям, што ён пойдзе пакуль паляжыць, стары пайшоў у бакавушку.

Між тым Алеся і малады паэт прыглядаліся адно да аднаго. Кульнуўшы чарку, Мікіта Біч прамовіў:

— Дзяўчына, давай пакурым…

— А ў цябе ёсць цыгарэты? — спыталася Алеся.

— Не, у мяне ёсць запалкі, — адказаў той.

— Ну вось і палі свае запалкі.

Мікіта Біч панурыў галаву.

— Чаму ты такая жорсткая? — спытаўся ён. — І ўвогуле, — прыўзняў голаў, бліскаючы вачыма, — як цябе завуць?

— А як бы ты хацеў, каб мяне звалі?

— І мы тады пакурым ці не?

— ?

— Добра. Можна я цябе назаву… Алесяй? — не зводзячы вачэй з дзяўчыны, вымавіў Мікіта Біч.

Алеся сумелася. Апусціла вочы.

— Дык я нешта не разумею, — прамовіў хлопец, — мы будзем курыць ці не? Ці, можа, я пакрыўдзіў цябе, ці што? Ты кажы. У мяне проста цыгарэты скончыліся, інакш бы я не пытаўся…

— Хопіць, — нібы праз сілу выдыхнула яна. — Цыгарэты пад футрам. Табе бліжэй.

Мікіта Біч дастаў пачак, пачаставаў дзяўчыну, запаліў сам і схаваў пачак у кішэню сваіх джынсаў.

Алеся змаўчала.

Яны моўчкі курылі, і кольцы дыму, сустракаючыся, зліваліся ў адно цэлае.

Мікіта Біч незразумела ўсміхнуўся, зноў панурыў галаву.

Алеся асцярожна правяла рукой па ягоных валасах, доўгіх і вельмі мяккіх.

— Якія мяккія… — прашаптала яна.

— А ў цябе… рунь пад вачыма.

— Што?

Нястрымны смех.

Алеся ўзяла кілішак з каньяком і выпіла нагбом.

У дзверы пагрукалі…

# Жыцця загадкавы палёт

## ДА 65-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

Перакладаў на рускую мову вершы Яўгеніі Янішчыц — і нечаканa адчуў патрэбу вярнуцца да тых жыццёвых абставін, у якіх нараджаліся яе паэтычныя радкі. Так узніклі фрагментарныя нататкі, якія прапаную чытачам «ЛіМа».



Фота з сайта rv-blr.com

Яўгенія Янішчыц з сынам.

27 лістапада 1988 года газета «Звязда» змясціла некралог з нагоды смерці Яўгеніі Янішчыц, падпісаны кіраўнікамі ўрада і кампартыі Беларусі, міністэрстваў культуры і адукацыі, знакамітымі дзеячамі літаратуры і мастацтва. У ім гаварылася, што беларуская літаратура панесла цяжкую страту — заўчасна памерла вядомая паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, член прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Прыгадваўся яе актыўны ўдзел у дзейнасці камітэта абароны міру, таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Адзначалася, што яна была ў складзе дэлегацыі нашай краіны на XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Як і належыць, пералічваліся лаканічныя факты яе нядоўгага жыцця, назвы нешматлікіх, але вядомых кніг… Памятаю, з якой узрушанасцю чыталі мы гэтыя радкі, бо ведалі з нейкай трывожнай няпэўнасцю і тое, чаго ў іх не было. Яўгенія Іосіфаўна амаль у 40 год трагічна загінула. Неяк самі сабой прыгадваліся прарочыя радкі:

*Жывіце і любіце,*
*Свой беражыце дом.*
*Як птушку ў зеніце,*
*Мяне застане гром.*
*Зямля — мая калыска,*
*Табе адной відаць,*
*Што немагчыма нізка*
*Ні падаць, ні лятаць.*

Прарочым здаваўся і ўвесь верш, звернуты да сына-школьніка. Нават назва твора — «На ўсякі выпадак» — цяпер насцярожвала. Здзіўляла нехарактэрная для паэтэсы амаль празаічная, верлібравая інтанацыя, якой дасягалася сапраўды бязмежная шчырасць.

*Сын, як заўсёды,*
*Акуратна рабі ўрокі:*
*Дысцыпліна — харошая якасць*
*Не толькі поспеху ў школе.*

* * *

*І яшчэ: будзь прывязан,*
*Як можаш,*
*Да верных сяброў па сэрцы*
*(Не дай табе Божа мяняць іх на новых),*
*Бо можа так здарыцца,*
*Што заўтра —*
*Не выйду табе насустрэчу.*
*Мама.*

25 лістапада 1988 года яна сапраўды ўпершыню не выйшла насустрач сыну. Застаўся нацягнутым шнур на балконе, на які вешала ў той дзень памытую бялізну. Можа, аступілася неасцярожна, выпадкова сарвалася… Зрэшты, жыццёвыя акалічнасці слыннай паэтэсы былі ў гэты час не самыя спрыяльныя. Трагічная смерць бацькі, развод з мужам — паэтам Сяргеем Панізнікам, амаль не прыхаваная зайздрасць абдзеленых тых талентам вершатворцаў. Ды і аўтамабільная аварыя пад Магілёвам, пасля якой давялося вучыцца не толькі хадзіць, але і жыць па-новаму, ніяк не спрыяла аптымізму. Менавіта тады ці не ўпершыню выдыхнулася: «Я і сама паміж вятроў уся палёт суровы».

Яна любіла знікаць, нікому нічога не патлумачыўшы. Аднойчы такое здарылася і ў кампаніі, што сабралася ў нумары маскоўскага атэля. Яна выдатна ведала, што менавіта тут у свой час трагічна загінуў Янка Купала. Непрыкметна сышла. Хтосьці занепакоіўся і знайшоў яе на высокім балконе. У адказ пачуў: «Пакінь. Тут я гэтага не зраблю. Я зраблю гэта ў іншы час і ў іншым месцы…» Прыблізна тады ж Яўгенія Іосіфаўна папярэдзіла паэтэсу Соф'ю Шах, чый паэтычны зборнік рыхтаваўся да друку ў кніжным дадатку да часопіса «Маладосць»: «Калі хочаш паспець, каб я была тваім рэдактарам, паспяшайся ўлічыць мае заўвагі...» «Я не прыдала гэтым словам асаблівага значэння, — прыгадвае Соф'я Мікалаеўна, — хаця і паспяшалася. Адрэдагаваць яна паспела, а падпісаць у друк — не. Гэта зрабіў іншы рэдактар».

І ўсё ж не верыцца. Хаця б таму, што і кніга выбраных твораў «У шуме жытняга святла» заканчваецца такім аптымістычным акордам:

*Глядзі, як заранка трапеча*
*Пад шапкай зялёнай галля!*
*Мы будзем з табою навечна —*
*Карэньчык,*
*Каменьчык,*
*Зямля.*

Класічнымі для беларускай паэзіі сталі і такія яе радкі:

*Ты пакліч мяне. Пазаві.*
*Там заблудзімся ў хмельных травах.*
*Пачынаецца ўсё з любві,*
*Нават самая простая ява.*

Яўгенія Янішчыц выдатна адчувала, што «інакш і жыць немагчыма». Аднак яшчэ ў дваццацігадовым узросце піша верш, прысвечаны бабулі Паланеі, прасякнуты народный быліннасцю. Заканчваецца ён афарыстычна: «У бабулі Паланеі пяць сыноў і пяць магіл…» А праз год з'явіўся верш таксама класічнага гучання — «Ля ложка хворай маці».

*Ты ляжыш не на ложку,*
*а ў жытнёвым полі.*
*Мама!*
*Так мне рукі твае не балелі ніколі.*
*То пасланы ў пакоі не ходнікі —*
*саматканыя сцежкі-дарогі.*
*Мама!*
*Так ніколі твае не балелі мне ногі.*

Псіхалагічным рэфрэнам паэтэса надзвычай таленавіта дасягае недасягальнага: «Я прыйшла, як заўжды, цішынёю тваёю сагрэцца. Так ніколі твае не шчымела мне сэрца…» Ёй баліць доля маці і яе слова. Гэта не проста пераўвасабленне, а жывое гучанне народнай песеннасці. Прыклады такой лірычнай пранікнёнасці — на кожнай старонцы прыгаданай кнігі. Але шмат у якіх творах — яшчэ большая прастора паэтычнага абагульнення. Ёсць яно і ў заглаўным вершы:

*І пакуль дыхае планета,*
*Не вынішчаецца да тла*
*Душа народа і паэта*
*У шуме жытняга святла.*

Разуменне паэзіі ў яе было малітоўна святое. І ў той жа час яна падсвядома адчувала спрадвечны трагізм наканаванасці лёсу паэта. Звяртаючыся да яго, прамаўляе:

*Ты залатую мрою не дагоніш,*
*А толькі словам немату загоіш*
*І выйдзеш зноў — без слова і пяра…*
*І ты душу сасмяглую напоіш*
*Сівой расою з роднага двара.*

Не, аптымізм яе не быў вонкавым. Глыбінны, а таму амаль заўжды з перадоленнем трагізму. Нават у вершы «Жывём!», які пазначаны клічнікам, чытаем:

*Мой боль! І хто ў мяне адніме*
*Пламенне, зыркае да слёз:*
*Адных — ва ўдушлівай гардыні,*
*Другіх — у чуласці наскрозь…*

Яна пранізліва адчувае, як «сышліся бур і стрэсаў стрэлкі», што «праз радыяцыю жывём», а на нас глядзяць «з ціхай вераю вякі». Але зноў і зноў ратуе адчуванне незямнога палёту на «голас ліры»:

*І кожны дзень — гарачы вырай*
*Здзіўленняў, радасці, клапот.*
*Так я іду на голас ліры,*
*Дзе ўсё — фантазія, палёт.*

Яна нібыта сама сабе зайздросціць: «Які шчаслівы лёс паэта — з нябачных промняў вобраз ткаць, і заміраць на схіле лета, і ў вольным слове ўваскрасаць…» А заканчваецца гэты прарочы верш радкамі, якія пасля трагічнага сыходу паэтэсы прыгадваліся найбольш часта: «Жыццё маё, і там, на схіле, ты ўсё — загадкавы палёт».

Цяпер многія даследчыкі творчасці Яўгеніі Янішчыц здзіўляюцца: чаму ў кнізе выбранага няма ніводнага верша з другога па ліку паэтычнага зборніка «Дзень вечаровы»? І зроблена гэта па волі самой паэтэсы. Найбольш грунтоўна і перакануча аналізуе гэты факт Тамара Аўсяннікава ў артыкуле «Абнадзееныя дні», што змешчаны ў часопісе «Маладосць». Спрабуючы разгадаць дружнае маўчанне магчымых рэцэнзентаў гэтага зборніка, яна прыгадвае словы Дзмітрыя Бугаёва: «Кнігі, як і людзі, маюць неадноўкавы лёс. На «Снежныя грамніцы» з'явілася больш дзясятка рэцэнзій. А на зборнік «Дзень вечаровы» аператыўная крытыка не адгукнулася…» Тым не менш менавіта ён атрымаў камсамольскую прэмію Беларусі. Вядомы літаратуразнаўца слушна сцвярджае, што ўзнагарода — за «шчырасць і глыбіню», за сапраўдную таленавітасць. Але запозненае прызнанне не магло перапыніць шматлікіх перасудаў: маўляў, кніга слабейшая за папярэднюю, а ўганаравана прэміяй. І гэта таксама было не лепшым дадаткам да яе тагачасных жыццёвых абставін.

Абгрунтоўваючы непаўторную паэтычную індывідуальнасць «Дня вечаровага», Тамара Аўсяннікава слушна гаворыць, што ў вершах з'явілася больш філасофскай развагі і жыццёвай мудрасці, а таксама таго, што чамусьці саромеліся гучна называць патрыятызмам.

*Цяпер, калі са мной зямля —*
*Мае палі, мае дубровы,*
*Я свята верую, што й шлях,*
*Абраны мной, беспамылковы.*

Усё часцей паэтэса задаецца пытаннем, што значыць яна для Бацькаўшчыны: «Хто я ў лясах тваіх, Радзіма? Радзіма, хто я у палях?» Звяртае ўвагу даследчыца і на верш «Памяці Ёзаса Янішчыца». Гэта першы муж Жэнінай маці, які не вярнуўся з вайны. Прозвішча бацькі — Патапчук. І колькі ўпэўненасці ў сваёй паэтычнай будучыні трэба было мець, каб сказаць: «Расстралянаму прозвішчу абяцаю жыццё…» Але ж сама просіць дапамогі ў прыроды, каб аберагала яе да таго самотнага часу, пакуль не стане «памяццю зялёнай ля ясяльдзянскага сяла». І нельга не пагадзіцца, што «Дзень вечаровы» — кніга сапраўднай паэзіі. «Шкада, — заключае Тамара Аўсяннікава, — што Жэня так балюча ўспрымала папрокі і крытыку ў адрас другой кнігі…»

«А вонкава яе жыццё выглядала, што называецца, на зайздрасць і на дзіва, — напіша пасля адзін з блізкіх сяброў яе. — Прыгожая — і не проста прыгожая, а ўзнёсла грацыёзная, нібыта не сялянскае дзяўчо, а князёўна, блакітная кроў. Таленавітая — і не проста таленавітая, а пазначаная боскім дарам. Пры славе, у еўропах і амерыках бывала, лаўрэат высокіх прэмій, заўсёды навідавоку… Душа яе не хацела і не магла жыць па звыклых законах большасці. Як гэта ні банальна. Я не думаю нават, што ёй шчасна жылося, хораша пачувалася ў паэзіі. Бо яна была абраным, сапраўдным паэтам…»

Зрэшты, знешне сапраўды ўсё было «на зайздрасць і на дзіва». Як толькі ні называлі яе: «палеская ластаўка», «Палесся мілае дзіця», «палеская летуценніца». Родам Яўгенія Янішчыц з вёскі Рудка Пінскага раёна. Мясціны на рэчцы Ясельдзе. Гэтая мілагучная назва вельмі падабалася юнай паэтэсе. Нават некаторыя свае лісты яна падпісвала «Ясяльдзянка». Яшчэ ў сёмым класе паспрабавала скласці верш, прысвечаны Якубу Коласу. А 21 верасня 1965 года адбыўся паэтычны дэбют: шэсць вершаў былі надрукаваныя ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Гэта натхніла і надало ўпэўненасці.

*Дыктуе дзень на ўлонні лета*
*Ёй пра палі і сенажаць.*
*…Дзяўчынцы хочацца ў паэты,*
*Што ў катаржанкі — дзе ж ёй знаць?!*

А потым — гады вучобы на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Актыўна ўдзельнічала ў літаратурным аб'яднанні «Узлёт». І сведчаннем яе самабытнага шчодрага таленту сталі кнігі «Снежныя грамніцы», «Дзень вечаровы», «Ясельда», «На беразе пляча», «Пара любові і жалю», «Каліна зімы», «У шуме жытняга святла». «Гэта паэзія, якая нячутна, накшталт сонечнага святла, уваходзіць у цябе, каб выклікаць у душы і сэрцы такі ж вясенні сонечны настрой, каб і ты быў падуладны яе магічным чарам, прычасціўся да радасці і ўрачыстасці жыцця», — адгукнуўся Ніл Гілевіч. Анатоль Грачанікаў адзначаў у яе вершах не толькі першароднасць пачуццяў і думак, але і безабароннасць перад людзьмі і светам. «Чытаючы яе, дакранаешся да чалавека шчырага і чулага, годнага і ўразлівага, самаахвярнага і вельмі самотнага», — заўважыла Ніна Мацяш. З такім выказваннем ахвотна пагаджаешся, прыгадваючы: «Дзень добры, мама! Гэта зноўку я, уся твая гаркота і надзея». Або: «Вось вясна сатчэ свае красёнцы, / дол абудзіць пошчак салаўя. / Усё міне, а будзе сын і сонца. / І між іх зямлёю буду я». Трывожнае прадчуванне не пакідала яе. І яно, як гэта, на жаль, бывае ў сапраўдных паэтаў, спраўдзілася.

На надмагільным помніку яна такая ж прыгожая, якой была. З крыламі за спінай. Не ўтрымалі, аднак, яе анёлавы крылы ў загадкавым палёце жыцця. І толькі вершам дадзена ніколі не губляць спрадвечных вышынь паэзіі.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

# Краю блаславёнага дачка

Паэтычная спадчына Яўгеніі Янішчыц — адна з самых яскравых і таленавітых старонак беларускай літаратуры апошняй трэці XX стагоддзя. Я. Янішчыц увайшла ў гісторыю беларускай літаратуры як прадстаўніца пакалення 70-х гг. XX стагоддзя разам з Р. Баравіковай, Т. Бондар, В. Гардзеем, В. Коўтун, Н. Мацяш, А. Разанавым і многімі іншымі. Паэтэса стварала сугучную яе творчым прынцыпам, унутраным патрабаванням і ўяўленням эстэтычную канцэпцыю рэчаіснасці, у цэнтры якой — наш сучаснік, чалавек XX стагоддзя, вакол якога і ў якім канцэнтруюцца духоўна-маральныя, этычна-эстэтычныя і філасофскія каштоўнасці жыцця. Чалавек, людзі, паводле паэтычнай філасофіі Я. Янішчыц, — галоўная і найвышэйшая каштоўнасць быцця.

Першы зборнік «Снежныя грамніцы», апублікаваны ў 1970 годзе, стаў заяўкай на тое, што ў літаратуру прыйшла таленавітая паэтэса са свежымі, незаштампаванымі тэмамі і ідэямі, народжанымі на палескай зямлі і гэтай зямлёй. І гэта дало падставы крытыкам называць яе паэтэсай з Палесся ці ластаўкай беларускага Палесся. «Палеская» тэматыка і праблематыка становіцца візіткай паэзіі Яўгеніі Янішчыц. У першую чаргу, "вясковыя" творы выклікаюць адчуванне мастацкага адкрыцця: здаецца, у іх увасобілася самая разнайтая палітра перажыванняў паэтэсы, што яны стварыліся на самым высокім напале творчага гарэння і што вясковыя вобразы загаварылі словамі самай чыстай, светлай, адухоўленай паэзіі. За «палескай», вузка рэгіянальнай, сутнасцю творчага самавыяўлення паэтэсы — радавая памяць грамадзяніна, улюбёнага ў сваю зямлю і людзей гэтай зямлі. За вялікім шэрагам «палескіх» вобразаў, часта з іх этнаграфічнай самабытнасцю, — гісторыя ўсяго беларускага народа.

Для мяне прыкмета сапраўднага таленту ў жаданні звяртацца да твораў пісьменніка зноў і зноў і пры гэтым кожны раз знаходзіць у іх штосьці новае, раней не заўважанае ці проста прыхаванае за многімі падтэкстамі… Як гэта здараецца з творамі Яўгеніі Янішчыц. Мне думаецца, што асаблівая сіла прыцягнення яе паэзіі — у лірычнай глыбіні яе мастакоўскага светабачання. Непаўторнасць янішчыцкага лірызму — у асацыятыўнай гнуткасці паэтычнага вобраза, у меладычнай танальнасці выказанага слова, у непадробным надрыве эмоцыі, у драматызме пачуцця, што кранае самыя балючыя струны душы. Лірыка кахання Яўгеніі Янішчыц — гэта трагічная гісторыя жаночай душы. Вы не задаваліся пытаннем, чаму ўзгадваецца радкі менавіта Яўгеніі Янішчыц, калі душа пакутуе ад безадказнага кахання, калі патанае ў акіяне слёз непаразумення, калі пазнае горыч расчаравання? Упэўнена — таму, што ў паэзіі Янішчыц знаходзіцца ключ да сховішчаў генетычнай памяці пра нешчаслівае каханне, пра нешчаслівы жаночы лёс. Гэта памяць беларускі, якая зазнала на працягу многіх стагоддзяў шмат гора і мала радасці ў каханні. У інтымнай лірыцы Янішчыц гаворыць з чытачом на мове болю, пакут, а яе лірычная гераіня паўстае ў непрыхаванай адкрытасці спакутаванай душы. Усё створанае Я. Янішчыц здольна адарыць чалавека светлай духоўнай энергіяй, заклікаючы да ўдумлівага стаўлення да самага вялікага дара — жыцця.

Яўгенія Янішчыц — гэта паэтэса з нязменнай прагаю крыла. Краю блаславёнага дачка, яна прымала нас песняй пабеларуску. Паэтэса з боскім дарам, яна «ў вольным слове ўваскрасіла» быт і быццё беларусаў праз паэтызацыю роднага Палесся. Народжаны святлом сонца і вышынёй неба лірычны талент Яўгеніі Янішчыц выступіў у беларускай паэзіі ўвасабленнем высакароднасці, чыстага сумлення, шчырай адкрытасці і даверу, высокіх ідэалаў і абстрачай маральнай патрабавальнасці. Струны яе душы спявалі паміж скрухай і святлом. Ёй дадзены быў лёс — «затрымацца на ўзлёце сонца», застыць для ўсіх нас у «загадкавым палёце» з неба да зямлі. У Янішчыц ёсць вершы, якія многімі крытыкамі ацэньваюцца як прадказанне будучага лёсу, як інтуітыўнае адчуванне трагічнага сыходу.


…ад Янішчыц — А. Пысіну, 1980 г.

Шчырая, акрыленая, натхнёная, яна стварала такія лірычныя творы-песні, якія сваім глыбокім зместам і кранаючым душу меладызмам узрушваюць і сёння. Яўгенія Янішчыц падкупляе чысцінёй, адкрытасцю, непасрэднасцю, за якімі — звышпранікнёнасць ва ўсе з'явы быцця. У адным вершы ёсць такі радок: «І думаю, чаму мне так прасторна?» «Прасторна» — для Янішчыц гэта не толькі каардынаты існавання ў фізічным свеце, гэта камертон творчага гарэння, вышыня паэтычнага ўзлёту думкі. Нягледзячы на тое, што ў радках яе вершаў мы адчуем і пакуты, боль душы, горыч і смутак, усё ж у яе творах прэваліруе шчырая і шчодрая сардэчнасць, нязмушанасць, адкрытая пульсуючая думка пра час і сябе. Нават рэдкія прамоўніцкія інтанацыі напаўняюцца непадманнай пачуццёвасцю. Нечакана проста пісаліся вершы пра вечнае, вялікае, значнае... Чысціня, дабрыня, мудрасць — важныя катэгорыі жыцця, якія лірычная гераіня адкрыла для сябе ў якасці кодаў уласнага існавання.

Трапяткая, балючая, аголеная, як нерв, лірыка Янішчыц сягае ў самыя патаемныя куточкі душы чытача, вібрыруе, як струна.

У яе жыцці былі перыяды творчага ўзлёту, славы і ўсеагульнага прызнання, а таксама час расчараванняў, беспрытульнасці, цяжкага і маруднага ачуньвання пасля аварыі ў Магілёве ў лютым 1976 года, калі Яўгенія Янішчыц атрымала мноства пераломаў і была на некалькі месяцаў прыкавана да бальнічнага ложка. Паэтэса так і не адолела душэўны боль і пакуты цела... Я. Янішчыц не стала 25 лістапада 1988 года, праз пяць дзён ад дня нараджэння, — ёй споўнілася толькі 40 год.

Гісторыя літаратуры ведае нямала прыкладаў таго, як паэты пакідалі жыццё маладымі, у росквіце свайго мастацкага таленту. Узнікае пытанне: чым абумоўлена падобная трагічная тэндэнцыя ў лёсах пісьменнікаў? Чаму маладая жанчына 40 гадоў, таленавітая паэтэса выбрала смерць? Драматычным сыходам з жыцця ў асобе Янішчыц кіравала абвостраная ранімасць натуры, якой ужо цяжка змагацца з супярэчлівай рэчаіснасцю; ці фізічныя і псіхалагічныя траўмы выклікалі глыбокую дэпрэсію, вынікам якой стаў акт самагубства; ці немагчымасць захоўваць аптымістычныя акорды паэтычнага слова ў песімістычна-абвостранай прасторы ўласнага існавання, у якім была адзінота, неразуменне… Мне думаецца, што сапраўднай, непапраўнай трагедыяй у лёсе паэтэсы і проста жанчыны, безумоўна, становіцца адчуванне адарванасці ад жыцця: асоба існуе ў замкнёнай прасторы сам-насам, і ёй цяжка пераадолець комплексы, перажыванні, трывогі. Ёй, чыя раздвоеная свядомасць не дазваляла выйсці за межы «замураванага пакоя», не бачыцца выхаду з гэтай адзіноты душы, спакутаванай і змярцвелай, змарнелай ад марных пошукаў цеплыні і жаночага шчасця. Але ці ў смерці выхад?



Непражытае жыццё, ненапісаныя творы, нявдзейснены лёс — за ўсім гэтым адмаўленне, выражанае часціцай не-, і біблейскае, філасофскае адмаўленне самазабойства як факта рашэння ўласнага лёсу. Самазабойства — гэта выклік грамадству, выклік жыццю і няпростай сутнасці існавання чалавека ці проста маўклівае выражэнне згаражуай ў пакутах творчасці страснай натуры жанчыны, якая апаліла крылы натхнення ў жыццёвым палёце… Не адбылася сустрэча-зліццё з самой сабой сапраўднай, моцнай, шчаслівай, размінуліся шляхі Янішчыц-паэтэсы і Янішчыц-жанчыны — магчыма, гэта і ёсць тая трагедыя духу, якая стала кропкай у трагедыі 25 лістапада 1988 года.

Не трагічны фінал жыцця Яўгеніі Янішчыц павінен вызначаць цікавасць да гэтай таленавітай паэтэсы, а яе творчасць, да якой, як да крыніцы, прыпадаюць чытачы рознага ўзросту. Нам, як букварныя ісціны, і сёння спасцігаць «святло, любоў і годнасць» паэзіі Янішчыц і вучыцца кахаць яе не «за рамяство», а за дадзеную нам магчымасць раскрываць таямніцы светлай энергетыкі твораў, непадуладнай драматычным калізіям лёсу паэтэсы.

Сёння маладыя аўтары вучацца па паэтычных зборніках Я. Янішчыц пісаць сэрцам і душой, шмат вершаў-прысвячэнняў адрасуецца паэтэсе. На вершы Я. Янішчыц напісана шмат песень як знакамітымі кампазітарамі, так і пачаткоўцамі. Я ведаю, што цяпер запісвае альбом на словы Яўгеніі Янішчыц Таццяна Беланогая, малады і таленавіты кампазітар і выканаўца. У тэатры аднаго акцёра «Зьніч» Галіны Дзягілевай ставіцца монаспектакль, прысвечаны жыццю і творчасці паэтэсы.

Юбілейныя даты актывізуюць і выдаўцоў. Пасля смерці паэтэсы апублікаваны кнігі: «Выбранае: Вершы», «Твоемо присътвие: Стихи» (на балгарскай мове), «Пачынаецца ўсё з любві…: Вершы, паэмы».

Пасля смерці паэтэсы Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб увекавечанні памяці Я. І. Янішчыц». Саюз пісьменнікаў і Дзяржкамдрук БССР збіраліся выпусціць збор твораў паэтэсы. Аднак да сённяшняга дня збору твораў чытач так і не дачакаўся. Са згоды і з падтрымкай сына паэтэсы Андрэя Янішчыца распачалі гэту справу ў 2013 годзе Т. Аўсяннікава і аўтар гэтых радкоў (камп'ютарны набор У. Трафімец). У аснове працы — акадэмічны падыход да падрыхтоўкі Збору твораў, у якім прадугледжваецца каментарый да прадстаўленых у тамах твораў пісьменніка. У кожным томе будзе змешчаны ўступны артыкул, які падсумуе праведзеную працу, адзначыць новыя знаходкі, патлумачыць цікавыя факты з біяграфіі паэтэсы. Безумоўна, у кнігах чытач убачыць і фотаздымкі Яўгеніі Янішчыц, як індывідуальныя, так і калектыўныя, у розных абставінах за розныя гады.

На працягу бягучага года група займалася зборам матэрыялаў для выдання. Ужо сёння можна сцвярджаць, што аматары творчасці Я. Янішчыц змогуць пазнаёміцца з тымі вершамі, якія ніколі не публікаваліся, даведацца і пра талент яе як перакладчыка, крытыка, адчуць подых часу праз інтэрв'ю і лісты. Упершыню будуць пададзены артыкулы, рэцэнзіі, выступленні, пераклады, інтэрв'ю, лісты. Вялікая колькасць аўтографаў з вершамі захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва, значную колькасць аўтографаў прадаставіў сын паэтэсы Андрэй. Варыянты твораў будуць падавацца ў каментарыях. Усё гэта дапаможа раскрыць постаць паэтэсы па-новаму: радавод, хроніка жыцця і творчасці, летапіс друку, успаміны пра Я. Янішчыц, вершы, ёй прысвечаныя, літаратуразнаўчыя артыкулы і інш. Укладальнікі рыхтуюць сюрпрызы для чытачоў, пра якія пакуль што ўмаўчым…

Запісаны ўспаміны настаўнікаў Парэцкай сярэдняй школы, якія вучылі Жэню Янішчыц, успаміны аднакурснікаў, родных, знаёмых, вядомых пісьменнікаў, якія добра ведалі паэтэсу, — і ўсё гэта будзе ўведзена ў 2-і том Збору твораў. Сабрана каля 50 вершаў-прысвячэнняў Яўгеніі Янішчыц, якія таксама будуць змешчаны ў адным з тамоў (і гэта работа працягваецца). Складзены летапіс надрукаваных твораў паэтэсы, асобна будуць пададзены ў летапісе артыкулы, рэцэнзіі, прысвечаныя жыццю і творчасці Я. Янішчыц. Як відаць з апрацаванага за 1963 — 2013 гг. летапісу друку, на працягу апошніх 25 гадоў асабліва ўсплёск публікацый пра паэтэсу прыпадае на юбілейныя даты, і па-добраму ўражвае тое, што ў розных перыядычных выданнях у сувязі з рознымі датамі і падзеямі нярэдка сустракаюцца на старонках беларускага друку вершы Янішчыц. Гэта гаворыць пра тое, што творчасць паэтэсы запатрабавана, да яе твораў звяртаюцца і праз дзесяцігоддзі. Ужо складзена хроніка жыцця і творчасці, куды ўнесліся як значныя падзеі з біяграфіі паэтэсы, так і «дробныя», кшталту творчай сустрэчы ці вечарыны, на якой Янішчыц чытала свае вершы. Больш таго — намі ўстаноўлены дакладныя даты і выпраўлены памылковыя ў апублікаваных афіцыйна біяграфічных звестках у энцыклапедыях, розных даведніках, навуковых даследаваннях. Усё разам дапаможа паглядзець на жыццё паэтэсы з розных ракурсаў, а даследчыкам — даць аб'ектыўную ацэнку яе творчасці.

Карыстаючыся магчымасцю звярнуцца да знаёмых, сяброў, калег Я. Янішчыц праз газету, яшчэ раз просім даслаць копіі лістоў, паштовак, дарчых надпісаў на адрас: *220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1/ 2, Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, Калядка С. У.* Мы абавязкова ўключым дасланыя матэрыялы ў выданне, якое, спадзяёмся, стане данінай памяці таленавітай паэтэсы, вартай такога літаратурнага помніка, як Збор твораў Яўгеніі Янішчыц.

**Святлана КАЛЯДКА**

# Навагрудак. Горад на Месяцы?

**Сёлета споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Але гэты незвычайны чалавек увайшоў у гісторыю беларускай культуры не толькі дзякуючы сваім геніяльным графічным і жывапісным творам, скульптурам і маляваным дыванам. Ён таксама цікавіўся этнаграфіяй, археалогіяй і нават астраноміяй.**



Герб «Трывеж» на вечку скрыні з археалагічнымі знаходкамі з Навагрудскага замчышча **(публікуецца ўпершыню).**

Дзякуючы менавіта зацікаўленасці ў астраноміі з'явілася кніга «Нябесныя бегі», надрукаваная ў Вільні ў 1931 годзе, і шматлікія фантастычныя малюнкі і карціны, якія ён ствараў ад пачатку 1930-х гадоў. У гэтых творах мастак адлюстроўваў жыццё на Месяцы, Марсе, Сатурне і Венеры, знешні выгляд тамтэйшых жыхароў, збудаваныя імі гарады, краявіды гэтых планет, іх раслінны і жывёльны свет. Прычым менавіта адлюстроўваў, а не прыдумляў. Вядома, што Драздовіч бачыў далёкія планеты ў сваіх снах. Сам ён гэтыя сны называў «самнамбулістычнымі». Пасля мастак падрабязна занатоўваў убачанае ў сне, рабіў замалёўкі і нават складаў планы іншапланетных мясцін і гарадоў.

Даследчыкі творчасці Язэпа Драздовіча неаднаразова адзначалі, што ў яго іншапланетных краявідах праступаюць матывы заходнебеларускай прыроды архітэктуры. Зрэшты, сам мастак у сваіх апісаннях вандровак па Месяцы ўвесь час параўноўвае тамтэйшую прыроду і архітэктуру з «нашымі». Але канкрэтныя прыклады перанясення зямных аб'ектаў на «іншапланетную глебу» ў творах мастака звычайна выявіць не атрымліваецца. І ўсё ж прыклады (прынамсі, адзін) ёсць. Аднак перад тым як пра яго распавесці, варта крыху адхіліцца ад тэмы і згадаць некалькі фактаў з біяграфіі Язэпа Драздовіча.

У вандроўным жыцці мастака быў перыяд, калі ён жыў у Навагрудку і меў рэдкую для сябе сталую працу — выкладаў у Навагрудскай беларускай гімназіі. Драздовіч працаваў тут з восені 1927 па вясну 1930 года. Ён выкладаў маляванне і кіраваў гуртком мастакоў. Пасля адбыўся канфлікт з педагагічнай радай гімназіі, вынікам чаго стала звальненне.

За час сваёй выкладчыцкай працы ў Навагрудку Драздовіч паспеў шмат што зрабіць. У тым ліку ім была створана вялікая серыя замалёвак муроў Навагрудскага замка, якая, на жаль, захавалася толькі часткова. Акрамя таго, Драздовіч заняўся і археалагічным вывучэннем: ён пачаў збіраць калекцыю матэрыялаў, падрабязна фіксаваць месцы знаходак і нават складаць планы замка. Гэты аспект дзейнасці Язэпа Нарцызавіча, здаецца, яшчэ не знайшоў належнага адлюстравання ў літаратуры, прысвечанай яго творчасці, таму на ім варта спыніцца больш падрабязна.

Пра археалагічныя штудыі Драздовіча ў Навагрудку мы даведваемся дзякуючы таму, што ў зборы Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь захавалася пяць фанерных скрыняў з матэрыяламі яго павярховых збораў. Гэтыя скрыні трапілі ў сённяшні Нацыянальны гістарычны музей у пасляваенны час з колішніх збораў Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Менавіта туды Драздовіч імкнуўся перасылаць усе свае графічныя і жывапісныя творы, а таксама тэксты і сабраныя ім этнаграфічныя матэрыялы. Але як патрапілі ў Віленскі беларускі музей матэрыялы з Навагрудскага замчышча, пакуль дакладна невядома: ці іх туды перадаў сам Драздовіч, ці яны паступілі ў музей з Навагрудскай гімназіі, зачыненай у 1934 годзе.

Мяркуючы па надпісах на скрынях, павярховыя зборы на тэрыторыі Навагрудскага замка Язэп Нарцызавіч праводзіў з 1927 па 1929 год. Відавочна, што захаваныя скрыні былі зроблены самім мастаком, напэўна, ён сам прымацоўваў да фанерных планшэтаў археалагічныя знаходкі і падпісваў іх. На жаль, цяпер немагчыма сказаць, колькі ўсяго было зроблена такіх скрыняў і ці дайшла да нас калекцыя Драздовіча цалкам.



Унутраны выгляд скрыні з археалагічнымі знаходкамі з Навагрудскага замчышча, планшэт 2 **(публікуецца ўпершыню).**

Чатыры скрыні з пяці, якія змяшчаюць фрагменты познесярэднявечнай керамікі і кафлі, звонку нічым не прыкметныя. А вось пятая скрыня, у якой знаходзяцца металічныя вырабы, з'яўляецца сапраўдным творам мастацтва. У адрозненне ад іншых, гэтая скрыня з абодвух бакоў упрыгожана каляровымі выявамі, выкананымі фарбай. На адным яе баку намаляваны герб у выглядзе геральдычнага шчыта, на якім — выява замка з трыма вежамі, ён стаіць на пагорку зялёнага колеру на фоне сіняга неба. З другога боку — геральдычны шчыт з выявай Пагоні ў атачэнні дубовых галінак.

Да ўнутраных паверхняў скрыні прымацаваныя фанерныя планшэты, упрыгожаныя малюнкамі, выкананымі тушшу. На першым планшэце — надпіс: «НАВАГРАДЗКАЕ ЗАМЧЫШЧЭ / 1927—1929 гг. / Калекцыя Я. Н. Драздовіча». Пад ім намаляваны драўляны вастракол з цэнтральнай вежай і двума вежамі па баках.

На другім планшэце паказаны мураваны замак, павернуты да гледача сцяной з трыма вежамі, у цэнтральнай з якіх маецца брама. Замак акружаны ровам. Справа ад яго размешчана яшчэ адно ўмацаванне — драўляны вастракол з вежай, якое злучаецца з замкам мостам, узведзеным над ровам. Відавочна, што абодва малюнкі — гэта выкананыя Драздовічам рэканструкцыі ўмацаванняў Навагрудскага замчышча, напэўна, на розных этапах яго існавання — больш ранні драўляны і пазнейшы мураваны. Цікава, што ўяўленне мастака пра знешні выгляд мураваных вежаў і сцен Навагрудскага замчышча не надта адрозніваецца ад рэканструкцыі, якая была прапанавана ў канцы 1970-х гадоў археолагам Міхасём Ткачовым на падставе вынікаў працяглых раскопак.



План Навагрудка, выкананы Язэпам Драздовічам. 1930 г. **(публікуецца ўпершыню).**

Да скрыні прыкладаюцца два малюнкі — планы Навагрудскага замчышча, выкананыя тушшу розных колераў. Першы з іх падпісаны 1930 годам. Пад другім планам стаіць дакладная дата яго стварэння: 24.IX.1930. Дадаецца і пералік змешчаных у скрыні знаходак.

У самой скрыні на абодвух планшэтах змешчаны археалагічныя знаходкі, відавочна — пад'ёмны матэрыялы, нумары пад якімі адпавядаюць нумарам у анатацыі да другога плана. У асноўным гэта жалезныя вырабы (цвікі, нажы, ключы, абутковыя падкоўкі, серп, падкова і інш.), маюцца таксама асобныя бронзавыя артэфакты. Акрамя таго, да першага планшэта прымацаваныя фрагменты каменнага асялка, глінянага праселка, а таксама свінцовая пломба.

Гэтая пломба не прадстаўляе пэўнай навуковай цікавасці, але яна надзвычай каштоўная для нашага апавядання, дакладней, з яе апавяданне нарэшце пачынаецца. Справа ў тым, што Язэп Драздовіч разгледзеў на гэтай пломбе выяву трох вежаў. Побач з ёй ён намаляваў рэканструкцыю гэтай выявы і падпісаў «Пломба з гербам Наваградзкага замку. “Трывежнік”». Відавочна, што выява замка з трыма вежамі на вечку скрыні — гэта той жа герб «Трывеж», толькі адлюстраваны, так бы мовіць, у «парадным» выглядзе.

Нельга ўявіць, што Драздовіч мог не ведаць пра існаванне гістарычнага герба Навагрудка з выявай архангела Міхаіла з мячом у адной руцэ і вагамі ў другой, які быў нададзены гораду яшчэ ў 1595 годзе. Але дзядзька Язэп прыдумаў для Навагрудка новы герб і знайшоў для яго абгрунтаванне ў падабранай на Замчышчы пломбе. Дакладней ён, мусіць, вырашыў, што на гэтай пломбе адлюстраваны старажытны, даўнейшы за вядомы з XVI стагоддзя герб. Галоўнае, што Драздовіч назваў гэты герб «Трывеж». Яшчэ больш важна, што ён, відавочна, лічыў Наваградак, у якім жыў, летапісны Навагародак, які ён сабе ўяўляў, «Трывежам».

А ў 1932 годзе, ужо ў Вільні, мастак у сваіх самнамбулістычных снах двойчы пабываў у іншым Трывежы, у тым, які, на яго думку, знаходзіўся на Месяцы. Мяркуючы па дзённікавых запісах Драздовіча, гэтыя касмічныя вандроўкі адбыліся дзесьці ўвосень і ў снежні. Верагодна, у самым хуткім часе ён занатаваў сваю вандроўку і аформіў яе ў выглядзе асобнай кніжкі, а ўжо да канца студзеня 1933 года быў створаны план «луннага горада Трывежа» і яго апісанне. Тады ж пачалася праца над жывапіснай панарамай горада. У лютым Драздовіч працягнуў апісанне Трывежа і яго наваколля і стварэнне «трывежскіх» замалёвак. Вынікам гэтай працы стала «кніга-рукапіс» «Трывеж і яго ваколіцы» з 28 старонак. Яшчэ адзін раз Драздовіч «пабываў» у наваколлях Трывежа ў пачатку чэрвеня 1933 года.

Натуральна, што «Трывеж», размешчаны на Месяцы, адрозніваецца па сваім знешнім выглядзе ад «Трывежа» на Панямонні. Але тое, што своеасаблівым прататыпам іншапланетнага горада ў свядомасці мастака стаў менавіта Навагрудак, сумненняў не выклікае. Так нечаканая фантазія Язэпа Драздовіча перанесла старажытны беларускі горад на спадарожнік нашай планеты. Ці, можа, наадварот? Калі давядзецца пабываць на Навагрудскім замчышчы, прыгледзьцеся ўважліва, мо на нейкі момант дзесьці на даляглядзе праступяць паміж панямонскага краявіду «месяцавыя» горы і кратары, зусім як на карцінах Драздовіча.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**



Фота Кастуся Дробава

# Гран-пры — для навукі

Думаецца, Выдавецкі дом «Беларуская навука» 2013 год можа для сябе лічыць паспяховым. Адна з нагод стала вядомая не так даўно. Колькі тыдняў таму ў Маскве былі падведзеныя вынікі чарговага міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2013» на лепшы навукова-выдавецкі праект. І яны ўражваюць: «Беларуская навука» стала пераможцам у трох намінацыях з пяці, у тым ліку атрымала Гран-пры конкурсу — за кнігу «Хто жыве ў Беларусі». Пра іншыя здабыткі гэтага года, адметнасці працы выдавецтва, а таксама планы на будучыню — наша гутарка з дырэктарам «Беларускай навукі» Аляксандрам Сташкевічам.

**— Аляксандр Іосіфавіч, ведаю, што Гран-пры на конкурсе «Навуковая кніга-2013» — не першая вышэйшая ўзнагарода гэтага творчага спаборніцтва, якую атрымала «Беларуская навука»…**

— Так, гэта ўжо другі Гран-пры для нас, але толькі апошняя крыштальная кніга — менавіта так выглядае ўзнагарода — знаходзіцца ў выдавецтве. Першая захоўвалася ў музеі НАН Беларусі, а пазней была перададзена ў спецыяльную экспазіцыю, прысвечаную кнігавыданню, у Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Варта адзначыць, што конкурс навуковай кнігі штогод праводзіцца Саветам па кнігавыданні Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук. У складзе міжнароднага журы ёсць і прадстаўнік Беларусі. Гэта намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Беларуская навука» Станіслаў Нічыпаровіч. Сёлета пераможнай для нас стала кніга «Хто жыве ў Беларусі». Дыплом І ступені ў намінацыі «Грамадскія навукі» атрымала даследаванне «Полацк: Полацк і Полацкае княства (зямля) у IX — XIII, летапіс старажытных слаёў, Полацк і яго акругі ў XIV — XVIII, рамяство, грашовае абарачэнне і гандлёвыя сувязі Полацка ў сярэднявеччы (па дадзеных археалогіі, нумізматыкі і пісьмовых крыніц), культура і асвета ў сярэднявечным Полацку». А вышэйшай узнагародай у намінацыі «Навука пра кнігу» адзначана сумесная праца Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі і Выдавецкага дома «Беларуская навука» — кніга «Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі: каталог выданняў з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, XVII стагоддзе». Думаю, што прысуджэнне гэтых узнагарод — вельмі высокая ацэнка беларускага навуковага кнігавыдання, працы ўсёй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**— Як лічыце, чаму менавіта гэтыя выданні ўразілі міжнароднае журы?**

— Кнігі, што былі прадстаўленыя нашым выдавецтвам на конкурс, сапраўды зроблены на высокім выдавецкім і паліграфічным узроўні, яны маюць вельмі вялікі навуковы патэнцыял, з іншага боку — гэта даследаванні на спецыфічную навуковую тэматыку. Да прыкладу, кнігу «Хто жыве ў Беларусі» мы рыхтавалі некалькі гадоў, гэта вельмі складанае выданне, праца навукоўцаў з Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Тут апісаны жыццё, бытавыя і сацыяльныя адметнасці прадстаўнікоў усіх асноўных нацый і народнасцей, якія жывуць у нашай краіне. Думаю, падобнага выдання яшчэ не было ў Беларусі, ды і ў краінах СНД, пэўна, такія кнігі з'яўляюцца нячаста.

**— Некалькі слоў пра тое, чым цяпер жыве Выдавецкі дом «Беларуская навука»?**

— Сёння гэта адно з самых буйных выдавецтваў у нашай краіне: у нашым штаце 70 супрацоўнікаў. У адрозненне ад іншых айчынных выдавецтваў, якія спецыялізуюцца ў асноўным на выпуску кніг, мы рыхтуем і выпускаем яшчэ 10 навуковых часопісаў і агульнаакадэмічную газету «Веды». Такія выданні патрабуюць таксама шмат працы і сіл, бо яны — вядучыя ў сваім кірунку навуковыя часопісы, тут па кожным з аддзяленняў НАН Беларусі публікуюцца перадавыя артыкулы пра адкрыцці і важнейшыя праблемы ў той ці іншай галіне навукі. Што да асноўнай нашай працы — выдання кніг, то іх у нас выходзіць 130 — 140 назваў на год. Гэта вельмі вялікая колькасць. Варта адзначыць таксама, што не так даўно пры частковай фінансавай дапамозе Нацыянальнай акадэміі навук краіны мы набылі сучасную лічбавую друкавальную тэхніку, пераплётнае абсталяванне, то бок стварылі свой паліграфічны ўчастак. Цяпер мы маем сваю вытворчасць і друкуем тут амаль усе нашы часопісы і да 80 працэнтаў кніг. Для нас гэта вельмі выгадна: зніжаецца сабекошт выданняў, якія маюць невялікі тыраж. Калі іх друкаваць на вялікім паліграфічным прадпрыемстве, то цана была б у некалькі разоў вышэйшая. Мы набылі абсталяванне для вырабу цвёрдага пераплёту, таму большая колькасць нашых кніг ужо выходзіць у цвёрдым пераплёце.

**— «Беларуская навука» — выдавецтва досыць спецыфічнае. Яно ўваходзіць у структуру НАН Беларусі і спецыялізуецца ў асноўным на выпуску навуковых кніг. Адчуваеце сябе манапалістам на беларускім рынку?**

— Канкурэнцыя паміж выдаўцамі ў нашай краіне асаблівая і не адчуваецца. У кожнага з дзяржаўных выдавецтваў свая тэматыка, свая ніша на рынку, таму і няма вострага спаборніцтва. Але што праўда — «Беларуская навука» з'яўляецца самым буйным выдавецтвам па выпуску навукова-тэхнічнай літаратуры ў краіне. І сёння навукоўцы імкнуцца апублікаваць свае манаграфіі ў нашым выдавецтве, бо гэта вельмі прэстыжна.

**— А як наконт продажаў кніг? Ці ёсць у «Беларускай навукі» прамая сувязь з «Акадэмкнігай», заснавальнікам якой з'яўляецца таксама НАН Беларусі?**

— У нас вельмі напружаныя планы па выданні акадэмічнай, сацыяльна значнай літаратуры, мы практычна не выдаём кніг за кошт аўтараў, таму ўсю выдадзеную прадукцыю рэалізуем самі. Безумоўна, «Акадэмкніга» — самы буйны пакупнік і распаўсюджвальнік нашай літаратуры. У нас вельмі цесныя і добрыя сяброўскія адносіны. Прыкладна 25 працэнтаў нашых выданняў рэалізуецца менавіта тут. Больш за тое, ёсць своеасаблівае джэнтльменскае пагадненне — на кнігі Выдавецкага дома «Беларуская навука» ў гэтай кнігарні самая нізкая гандлёвая надбаўка.

**— Усё часцей беларускія выдаўцы адзначаюць карысць наведвання міжнародных кніжных выставак-кірмашоў. І не толькі з-за абмену досведам, але і з-за магчымасці продажу правоў на выкарыстанне электронных версій кніг…**

— Сапраўды, мы традыцыйна ўдзельнічаем ва ўсіх значных кніжных кірмашах, і менавіта цяпер яны даюць новы штуршок да супрацоўніцтва з іншымі краінамі — у галіне продажу электронных версій. Гэта вельмі добрая тэндэнцыя для нас, бо і летась, і сёлета мы ўжо атрымалі добрыя грашовыя дывідэнды дзякуючы стасункам з замежнымі і расійскімі бібліятэкамі. Думаецца, варта пашыраць гэты рынак.

**— Якія яркія навінкі «Беларускай навукі» чакаюць чытача ў хуткім часе?**

— Канец года для нас выдаўся складаным, але складаным у добрым сэнсе, бо мы чакаем значных вынікаў. Так, завяршаем некалькі «ўдарных» выдавецкіх праектаў. Да прыкладу, заканчваем падрыхтоўку выдання Вольгі Лабачэўскай «Беларускі народны тэкстыль», а таксама работу над першай кнігай чатырохтомніка (у 6 кнігах) «Нарысы па гісторыі культуры Беларусі». Гэта вельмі фундаментальная праца. У бліжэйшыя тыдні гэта пойдзе ў друк. Мы разлічваем, што дазеныя кнігі ўжо ў наступным годзе атрымаюць высокую ацэнку ў чытачоў і ў культурным асяродку краіны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

## Радкі, правераныя часам

Мяккая лірычнасць і арганічная набліжанасць да народных паэтычных традыцый — так можна коратка азначыць асаблівасці твораў Галіны Гузянковай, настаўніцы па прафесіі і паэтэсы па светаўспрыманні. Назва яе зборніка — «З чыстай крыніцы».

І сапраўды, вобразы для сваіх вершаў яна бярэ з крыніцы роднай мовы, роднай прыроды. У яе вершах «звініць жаўрук над сціннымі палямі...» Мова для творцы — гэта «шоргат зямелькі вясною пад плугам, / І посвіст касы ў касавіцу над лугам, / І ціхі напеў калыханкі дзіцячай, / І роспачны боль памінальнага плачу...» Менавіта ў родным асяроддзі яна чэрпае натхненне, якое прарастае ў яе вершах гожымі радкамі:

*Я вершы збірала свае ў наваколлі:*
*Між кветак у лузе, у жыце*
*на полі…*

Пра роднае і блізкае Г. Гузянкова піша проста і шчыра. Ці гэта горкі ўспамін пра вайну («Бяроза», «Балада пра каваля»), ці клопат пра нашы беларускія вёскі («Маё Брылёва», «Памірае мая вёска, памірае…», «Вёска майго дзяцінства», «Без віны вінаватая»), ці пра каханне («Купальская ноч», «Чароўныя каралі», «Позні пацалунак» і інш.) — вершы кранаюць сэрца чытача.

Г. Гузянкова патрабавальна ставіцца да паэтычнага радка. У яе творах няма выпадковых слоў, прадыктаваных толькі рыфмаю або пагоняю за прыгажосцю. Як філолаг і як чалавек, які адчувае словa, яна нідзе не дапускае фальшу.

Галіна Ільінічна — адна з тых, хто разам з І. Сярковым, А. Грачанікавым, Ю. Фатневым, М. Башлаковым і іншымі вядомымі цяпер майстрамі слова стаяў ля вытокаў аматарскага літаратурнага аб'яднання Гомельскага раёна «Пралеска». Яе першы надрукаваны верш «Першае каханне» з'явіўся ў 1969 г. менавіта ў раённай газеце «Маяк».

Творы Г. Гузянковай выспявалі доўга. Толькі пасля праверкі часам яна наважылася выдаць адразу два зборнікі. Амаль адначасова з першай кнігай выходзяць вершы на дзіцячую тэму «Подари мне, мама, радугу». Верыцца, што гэта не апошняя яе кніга.

**Галіна РАГАВАЯ**

## Вяртанне да вытокаў

Імя паэта Валянціна Семянякі добра вядома ўсім, хто цікавіцца сучаснай беларускай паэзіяй. Яго вершы друкаваліся на старонках часопісаў «Полымя», «Маладосць», у «Настаўніцкай газеце», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», калектыўным зборніку «Зоры над Зальвянкай».

І вось сёлета да юбілею паэта «Выдавецкі дом "Звязда"» падараваў прыхільнікаў ягонай творчасці цікавай і змястоўнай кнігай «Зорка залатая». Складаецца яна з чатырох раздзелаў: «Нам трэба некалі вяртацца...», «На досвітку», «За ўсё, што маю...», «У чым чалавечае шчасце?», куды ўвайшлі вершы на беларускай і рускай мовах.

Валянцін Семяняка па адукацыі фізік: скончыў фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Шмат гадоў выкладаў у школах Зэльвенскага раёна. Але ў яго душа сапраўднага лірыка. Таму, відаць, сустрэча з аўтарам кнігі «Зорка залатая» сагравае нас сардэчнай шчырасцю і душэўнай цеплынёй.

Кожны чарговы крок для лірычнага героя — лёсавызначальны. І ўсё ж, нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці, ён робіць правільны выбар: «Але так лёгка крочыць па жыцці, / Змагацца, верыць і любіць аддана, / Калі свой шлях, якім рашыў ісці, / Ты правільна абраў на скрыжаванні».

Шмат светлых і пранікнёных радкоў у кнізе прысвечана маці, родным мясцінам, каханай...

Паэта, які сам даўно жыве ў глыбінцы, хвалююць праблемы міграцыі мясцовага насельніцтва. «Адзвінелі песні, адцвілі вяргіні, / Паз'язджалі ў горад дочкі і сыны. / А бабулькам грэюць сэрца прыпаміны, / Ды яшчэ — чаканне новае вясны». Таму ён збалелай душою адчувае, што «Нам трэба некалі вяртацца / Да першых сцежак і пачуццяў, / Да песень, што спявала маці...»

І паэт увесь час вяртаецца да сваіх вытокаў. А кожнае ягонае вяртанне — шчырае і хвалюючае.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**



*Валянцін Семяняка. Зорка залатая. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

*Паралелі*

# Натхнёная… кавай




*Гізэм. Аўтапартрэт.*

Напэўна, кожны з лёгкасцю назаве сяброў ці знаёмых, якія ў дзяцінстве выдавалі самаробныя газеты ці часопісы, аздабляючы іх сваімі малюнкамі і напаўняючы ўласнымі тэкстамі. Да прыкладу, мой сябар для сябе і выбраных аднакласнікаў рабіў школьны часопіс *Dorava,* а былы калега шчыраваў над падрыхтоўкай спецыяльнай газеты, так бы мовіць, унутранага карыстання — для членаў сям'і. Але для мастачкі і ілюстратара Гізэм Вурал, якая нарадзілася ў Турцыі, але цяпер жыве ў горадзе Ітака (штат Нью-Ёрк), выданне маленькіх тэматычных часопісаў — не проста забаўка. Больш за тое, набыць гэтыя кніжачкі, уласнаручна зробленыя і аздобленыя мастачкай, можа абсалютна кожны — каб атрымаць у калекцыю сапраўдны рарытэт. Пра гэтыя незвычайныя выданні, мары афармляць кнігі, а таксама каву як адну з крыніц мастакоўскага натхнення — наша гутарка з Гізэм.

**— Ты нарадзілася ў Турцыі, але цяпер жывеш у ЗША. Ці можна ў тваёй творчасці знайсці рысы гэтых краін, культур?**

— Думаю, можна. У Ітацы такая прыгожая прырода, тут у любы час можна пабачыць аленя, вавёрку ці дзятла. Не так даўно я нават пачала маляваць пейзажы. Але не думаю, што мяне натхняе нейкі асаблівы аспект амерыканскай ці турэцкай культуры або адрозненні паміж імі.

**— Сумуеш па Турцыі?**

— Так, але ў большасці сумую па сваёй сям'і, а таксама любімых стравах, напрыклад, выпечцы.

**— А чаму вырашыла пераехаць у ЗША?**

— Добрай кар'еры ілюстратара ў Турцыі не зробіш. Я ж заўсёды марыла атрымаць менавіта такую прафесію і зарабляць грошы гэтай справай. У Стамбуле вывучала графічны дызайн, у той час мой малады чалавек скончыў універсітэт, і я таксама вырашыла завяршыць навучанне. Не змагла атрымаць дыплом, ды і дызайн на той момант мне зусім не падабаўся. Таму пакінула ўніверсітэт, выйшла замуж і ўжо разам з мужам пераехала ў Нью-Ёрк. Цяпер, калі я азіраюся ў мінулае, то разумею, што прыняла самае правільнае рашэнне ў сваім жыцці. Шкада, што не рабіла шмат ілюстрацый цягам тых шасці год, калі вывучала дызайн.

**— Ілюстрацыя, стварэнне сваіх часопісаў — што табе падабаецца больш?**

— Маляваць! Таму мне падабаецца рабіць усё, што ўключае маляванне. Не так важна, што я раблю, цэласны часопіс ці проста асобную ілюстрацыю. Галоўнае — маляваць. А яшчэ я вельмі хацела б ствараць ілюстрацыі для кніг, вокладкі. Спадзяюся, вельмі хутка ў мяне з'явіцца магчымасць праілюстраваць нейкі твор. Мне вельмі падабаецца ствараць атмасферу, а таксама ў малюнках распавядаць пра ўсё, што адбываецца ў кнізе.

**— Пра што твае часопісы? Хто чытач? Ці маеш ты нейкі прыбытак ад гэтых самаробных выданняў?**

— У якасці тэмы заўсёды выступае тое, што мне вельмі падабаецца, ці наадварот — нейкая мая праблема. «Валасаты» часопіс быў пра тое, што я ненавіджу больш за ўсё: валасы на целе, у ежы, нерасчасаныя і непаслухмяныя… Але ствараць ілюстрацыі да яго было так весела! Яшчэ адзін часопіс быў прысвечаны каве. Я вельмі люблю каву і той магічны эфект, які яна робіць на мяне. Не магу пражыць і дня без гэтага цудоўнага напою, таму вырашыла ўсё намаляваць, каб падзяліцца сваімі думкамі і любоўю да кавы з іншымі залежнымі ад яе людзьмі.

Што да прыбытку, які я атрымліваю ад продажу часопісаў праз інтэрнэт, то ўсе грошы трацяцца ў большасці на картрыджы для прынтара, каву, алоўкі і паперу, якія выкарыстоўваю ў працэсе. Але дзякуючы гэтаму я магу рабіць больш!

**— Вось чаму столькі тваіх малюнкаў так ці інакш прысвечана каве! Яна цябе натхняе?**

— Кава — гэта магія. Кава — мая любоў. Канечне, гэта не ўсё, але яна моцна ўплывае на маё жыццё. Мне падабаецца думаць пра каву, калі я п'ю яе, і з кавай мне прасцей фармуляваць думкі. Часам я выкарыстоўваю яе як фарбу для сваіх малюнкаў. Адзін толькі пах можа мяне прымусіць на некаторы час забыцца на ўсё кепскае, што адбываецца ў жыцці.

**— Што яшчэ натхняе?**

— Падзеі майго жыцця, фотаздымкі, гісторыі, якія я чытаю ці чую, мае сны, страшныя і добрыя, усё, што я бачу і што мне падабаецца маляваць.

**— А як наконт кніг? Ты любіш іх?**

— Так, канечне. Мне падабаюцца розныя кнігі — ад дзіцячых да дэтэктываў ці проста мастацкая проза. У ліку маіх любімых — «Алхімік» Паўла Каэльа.

**— Ты выпускаеш свае маленькія часопісы на паперы. Думаеш, гэта добрая ідэя? Ці не дастаткова было б проста публікацыі ў інтэрнэце?**

— Мне падаецца, калі не надрукаваць малюнкі на паперы, то ў мяне не атрымаецца перадаць чытачу ўсе мае думкі і эмоцыі. Мне нават самой не падабаюцца электронныя версіі кніг ці часопісаў. Я люблю дакранацца да паперы, маляваць на ёй, пакідаць нейкія пазнакі на палях. Калі раблю часопісы, мне важна, на якой паперы я іх друкую, якія аловак выкарыстоўваю, калі малюю, і якой асадкай пішу тэкст.



*Кава, горад і яго чараўніцтва.*

**— Каго ці што табе больш за ўсё падабаецца маляваць?**

— Апошнім часам я малюю шмат грыбоў — гэта прыдуманыя мной персанажы. Але не падабаецца маляваць ужо знаёмых герояў, заўсёды прыдумваю і ствараю нешта сваё.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**малюнкі Гізэм Вурал**

## *100 фактаў пра «Вянок»*



…адзін з экзэмпляраў «Вянка», які захоўваецца ў Літаратурным музеі М. Багдановіча, належаў Уладзіміру Дубоўку.

...Уладзімір Дубоўка, адзін са стваральнікаў «Узвышша», набыў «Вянок» у 1922 годзе (пра гэта сведчыць уладальніцкі надпіс), а ў 1964 годзе падарыў яго літаратуразнаўцу Дзмітрыю Бугаёву, ад якога кніга патрапіла ў музей.

…у 1963 годзе ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва паступіў на захаванне зборнік вершаў «Вянок» М. Багдановіча, які належаў Лукашу Бэндэ, сумна вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу.

…у 1914 годзе М. Багдановіч падарыў сваю кнігу супрацоўніку яраслаўскай газеты «Голас», зрабіўшы дароўны надпіс: «Николаю Сергеевичу Ашукину, чтобы не так скоро забыл. М. Богданович».

…«Вянок» з дароўным надпісам атрымаў ад аўтара Мікалай Рафаілавіч Какуеў, сябра Максіма па яраслаўскай гімназіі.

…Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь захоўвае чатыры асобнікі зборніка вершаў М. Багдановіча «Вянок» 1913 года.

…адзін з экзэмпляраў «Вянка», які захоўваецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Беларусі, меў адзнаку пры паступленні: «Книга бесплатно из фондов НКВД».

…адзін з «Вянкоў» Максіма Багдановіча, што захоўвае Прэзідэнцкая бібліятэка, належаў раней Аляхновічу, пра што сведчыць асабісты подпіс уладальніка.

…у музеі Максіма Багдановіча ў г. Гродна захоўваецца два экзэмпляры «Вянка».

…адзін з прыжыццёвых «Вянкоў», які экспануецца ў музеі М. Багдановіча ў Гродне, належаў стрыечнай сястры паэта Ганне Кіпрыянаўне Валасовіч-Гразновай.

**Падрыхтавала**
**Ірына МЫШКАВЕЦ**

*Скарбніца ведаў*

# Ад князёў Паскевічаў у спадчыну

Сёння Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна адзначае 85-годдзе з дня адкрыцця. У 1934-м гэтай установе было перададзена 20 тысяч кніг з калекцыі князёў Паскевічаў — вельмі рэдкія выданні XVI — XIX стагоддзяў.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны найбольш каштоўную частку фонду вывезлі ў расійскую глыбінку, а вярнуліся выданні ў Гомель толькі ў ліпені 1945 года. У 2001-м у бібліятэцы быў адкрыты аддзел рэдкай кнігі, у 2008 годзе — Музей рэдкай кнігі, аснову якога складае бібліятэка князёў Паскевічаў.

— Гэтыя кніжныя рарытэты вывучаюцца і пераводзяцца ў электронны выгляд, — распавяла дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Валянціна Дуброва. — Цяпер наш фонд налічвае больш як адзін мільён крыніц інфармацыі на розных носьбітах. Уступіўшы дзесяць гадоў таму ў эру інфармацыйных тэхналогій, мы не толькі папаўняем свой фонд электроннымі рэсурсамі, але і самі іх ствараем. Гэта праект «Жывая памяць Гомельшчыны», віртуальныя музеі пісьменнікаў-землякоў: Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка, Івана Мележа, Івана Навуменкі і Барыса Сачанкі. Супрацоўнікі бібліятэкі — аўтары і вядучыя часопіса «Бібліяпанарама», які штотыдзень выходзіць у эфір на абласным радыё.

У 2001 годзе ў новым корпусе ўстановы была адкрыта актавая зала. Менавіта тут увасабляюцца цікавыя творчыя праекты. Адзін з іх — «Славянскія літаратурныя дажынкі» (сумесна з абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі). Працуе народны аматарскі тэатр «Гракі». Пад эгідай Міжнароднага саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтваў дзейнічае арт-клуб «Прызнанне». Развіваецца супрацоўніцтва з нацыянальнымі і абласнымі бібліятэкамі блізкага і далёкага замежжа.

Праца бібліятэкі ацэнена высока. У 2001 годзе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў калектыву спецыяльную прэмію за духоўнамаральнае выхаванне сваіх чытачоў і рэалізацыю праграмы прапаганды культурнай спадчыны Беларусі. Бібліятэка выконвае ўскладзеную на яе місію па зборы і захаванні нацыянальнай спадчыны.

Падчас святкавання юбілею пройдзе шмат цікавых імпрэз: ушанаванне ветэранаў, выстаўка рэдкіх выданняў і някніжных матэрыялаў, атрыманых у дар ад сяброў бібліятэкі, экспазіцыя работ удзельнікаў дзіцячага творчага конкурсу па стварэнні аблічча бібліятэкі будучыні, прэзентацыя аўтарскага праекта фотамастачкі Марыны Васільевай, знаёмства з паэзіяй Юрыя Максіменкі, персанальная выстаўка Ігара Кулікова, майстра з г. Бранска (Расія), і інш.

**Раіса МАРЧУК**

# Па-славацку

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы стаў пляцоўкай урачыстай прэзентацыі верша паэта «Мая малітва» ў перакладзе на славацкую мову.

Пераклад выкананы Марыянам Сэрваткам — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у 2008 — 2013 гадах. Спадар Сэрватка падкрэсліў надзённасць і трываласць культурных сувязей паміж беларускім і славацкім бакамі пры ўдзеле музея Янкі Купалы, дзе існуе праект «Беларусь — Славакія. Дыялог культур». Ён разгорнуты невыпадкова: беларускі паэт як член Таварыства культурных сувязей Савецкай Беларусі за мяжой двойчы наведаў Чэхаславакію і атрымаў там шмат моцных уражанняў.

«Мая малітва» на славацкай мове стала нагодай гучання па-беларуску вершаў самога перакладчыка, Марыяна Сэрваткі. Іх у перакладзе Міколы Труса змясціў часопіс «Роднае слова»: адпаведны нумар з рук галоўнага рэдактара выдання атрымаў цяперашні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славакіі ў Беларусі спадар Міраслаў Мойжыта. Вытанчана і кранальна вершы агучыла супрацоўніца музея Наталля Мацукевіч. Бард Сяргей Антонаў выканаў дзве песні на словы Янкі Купалы і кампазіцыю Алега Моўчана на верш «Мая малітва». Мастачка Аксана Аракчэева прэзентавала створаны ёю жывапісны вобраз народнага песняра і апошні твор свайго бацькі разам з эскізамі — «Купала і вайна». Палотны застануцца ў музеі паэта.

**Тацццяна СТУДЗЕНКА**

# Буквы исчезают в полдень

Ребёнку нужно волшебство. Каждый день и в большом количестве. Серию книжек, представленных здесь, объединяет одна цель: рассказать о том, как интересно познавать мир, особенно — фантастический. На самом деле чудеса живут в обычных вещах, окружающих нас, стоит лишь обратить на них внимание. Книга — это тоже чудо, которое нужно открыть. Тексты пяти книжек можно разделить на несколько уровней и возрастных групп. «Приключения буквы «А»» подойдут крохам, которые только учат алфавит. Истории про фей Винкс родители могут читать малышам сами, показывая увлекательные картинки. Мультсказки Сергея Михалкова, а также приключения Веры и Анфисы рассчитаны на детей, уже знающих толк в словах. Хрестоматия универсальна и будет полезной как в первом, так и в четвёртом классах.

## МАЛЫШАМ — ПРО АЛФАВИТ

На Земле есть город, сказочный и красивый, — повествует книга Людмилы Петрушевской **«Приключения буквы "А"»**, вышедшая в издательстве «Астрель» при участии ООО «Харвест». Каждый из нас, будучи маленьким и несмышлёным, искал дорогу к этому городу, когда учился читать. В нём живут 33 человечка. Разумные существа, причудливо сложенные из букв, поют, смеются, рассказывают удивительные истории и всё время ходят вместе, превращаясь в слова. Но однажды произошло несчастье: самая первая жительница, буква «А», потерялась. Может, обиделась, что все спорили, почему это она возглавляет алфавит, или просто решила прогуляться, заблудилась и… заснула! По отдельности буквы ничего не значат. Если сказать просто «А», никто не поймет, что ты имеешь в виду. Вот буква и маялась, бедная, в поисках дороги домой. Но, с другой стороны, она стала героиней захватывающих событий: познакомилась с говорящими очками, разозлила козлахвастунишку и чуть не угодила под колёса чёрного телевидения. Интересно? Безусловно. Но главное — сказка помогает малышам освоить алфавит.

Во-первых, буква «А» встречает по пути своих собратьев, они объединяются и образуют звуки, слова и даже целые фразы. Во-вторых, желание научиться читать подстегнут забавные, необычные иллюстрации. Такое чувство, что они нарисованы рукой ребёнка, но в то же время — с прозорливой точностью взрослого. Людмилу Петрушевскую не зря называют «Андерсеном в юбке».




По секрету: её историями о смышлёном поросёнке, волшебницах, принцессах, поющих котах и других персонажах зачитываются не только дети. Наверняка серьёзные взрослые по ночам тайком таскают с полок книжки! Что в них особенного? Как и во всех сказках — добро побеждает зло, а ведь именно этого не хватает в реальной жизни.

## МУЛЬТИКИ ПОКАЗЫВАЕТ… КНИГА

Кто не знает добродушного Дядю Стёпу, упрямого Фому и трёх поросят? Триумфальное шествие стихов, сказок и басен Сергея Михалкова стало связующей ниточкой поколений —




от бабушек и дедушек к их внукам, перешагнув через советское прошлое в современность и не утратив своей актуальности. Однажды отец сказал Сергею, который собирался переезжать из родного дома в Москву учиться: «Может быть, со временем из тебя что-нибудь и выйдет. Но главное, чтобы из тебя вышел человек!» Это поучительное напутствие — лейтмотив всего творчества Михалкова. Будучи великолепным знатоком детской психологии, он хотел, чтобы его произведения были интересны всем детям на Планете и воспитывали в них лучшие качества.

Благодаря серии «Союзмультфильм», выпускаемой издательством «АСТ» при участии ООО «Харвест», можно взглянуть на сказки писателя в новом увлекательном ракурсе. Мульткниги — отличная возможность познакомить детей не только с чтением, но и с отечественными мультиками, которые, к слову, отнюдь не хуже своих американских «коллег»! Сказки-мультфильмы, со множеством иллюстраций, для больших и маленьких можно перечитывать много раз, чтобы вновь встретиться с полюбившимися героями.

Конечно же, не обошлось без стихов, где каждая строчка — уже ставшая крылатой фраза. Здесь тоже мораль! «Шёл трамвай десятый номер по Бульварному кольцу» повествует о том, что старость надо уважать, а «Всадник» учит не хвастать тем, чего не умеешь делать. Ясно, что все дети хотят казаться старше, например, сынишка верит в в абсолютное могущество своего папы и потому, мечтая, кажется равным ему. Но легендарное: «Прошу не учить, мне одиннадцать лет!» — звучит с такой доброй иронией, что даже малышам будет понятно, где лежит граница «взрослости» и «здравого смысла». Часто дети строят свой собственный мир, где они — главные, и детские писатели идут им навстречу. Что ж, никакой катастрофы. Быть самостоятельной личностью — то, к чему стоит стремиться.

## БИБЛИОТЕКА НА ЛАДОШКЕ

Как заставить ребёнка читать, если есть компьютер, телевизор? Да развеять миф о том, как это скучно. Красочные картинки, сопровождающие издание **«Иллюстрированная большая хрестоматия для начальной школы. 1 — 4 класс»** (выпущенное издательством «АСТ» при поддержке ООО «Харвест»), удивительно реалистичные. Кажется, ещё минута — и сестрица Аленушка, барон Мюнхгаузен, стойкий оловянный солдатик и Красная Шапочка оживут. При этом подборка авторов, классиков детской литературы, пишущих в разных жанрах и стилях, не позволит заскучать даже самому придирчивому читателю.

И пусть ученика не смущает, что хрестоматия составлена с учётом программы школьного чтения. Здесь есть всё, что избавит от хождения по библиотекам и станет залогом хорошей успеваемости с первого по четвёртый класс. Народные сказки, увлекательные повести, поэтичные рассказы о природе, весёлые стихи и поучительные басни, собранные на страничках, быстро станут любимыми. Чтобы вырасти образованным человеком, воспитать в себе литературный вкус, мало знать имена писателей — необходимо познакомиться с их творчеством. Первоклассникам обязательно понравятся лесные жители Виталия Бианки, три медведя Льва Толстого, дружные заяц и лиса




Николая Сладкова. Но больше всего поразит «Азбука в стихах и картинках» и «Весёлый счёт» Самуила Маршака. Единицу он сравнивает с тонкой спицей, двойка выгибает шейку, словно лебедь, тройка напоминает два рыболовных крючка, а четвёрка — оттопыренный острый локоть. Игру слов и букв гармонично дополняет изобразительный ряд, помогающий малышам лучше запомнить алфавит. Что касается ребят постарше, то для них в книге подготовлены произведения посерьёзней, из которых предстоит поучиться: преданности — у Льва, искренне полюбившего собачку, которую отдали ему на съедение в клетку, находчивости — у братца Кролика, проучившего коварного Лиса так, что тот опомниться не успел…

Завершающим книгу аккордом станут басни Ивана Крылова, над которыми трудно не задуматься, а также повести Михаила Пришвина, воспитывающие у детей прекрасное качество — бережное отношение к родной природе.




## ОНИ ВОЗВРАЩАЮТСЯ!

Друзья нужней всего на свете! Это философия Эдуарда Успенского, писателя, подарившего детям дядю Фёдора, кота Матроскина, собаку Шарика, крокодила Гену, Чебурашку и других замечательных героев. Кипучая энергия весёлого выдумщика позволили писателю успешно завоевать внимание маленьких читателей. Эдуард Успенский говорил, что его книги написаны по законам детей, он сам учится у них, наблюдает, стремясь понять, что им нравится, а чего недостаёт. Каждый детский писатель должен быть в душе ребёнком, иначе даже самый талантливый не достучится до крохотных, но чутких сердец.

В книге **«Про девочку Веру и обезьянку Анфису»**, которая вышла в свет благодаря издательству «АСТ» при участии ООО «Харвест», — 12 маленьких историй. Все начинается со старых, любимых, знакомых по мультфильму приключений девочки и обезьянки. Они живут в Москве, в обычной городской квартире. Поэтому Анфиса лазает не по пальмам и лианам, а по шкафам и шторам. Она немножко похожа на зверушку, немножко — на ребёнка, из-за этого безобразий и хулиганств получается в два раза больше. А в продолжении, которого с нетерпением ждали не только дети, но и их родители, действие происходит уже в наше время. Они по-прежнему шалят и проказничают, вместе ходят гулять в детский сад, кино, зоопарк, на телевидение, собирают макулатуру и… пробуют подрабатывать! Возможно, кому-то покажется, что это уж слишком. Но ведь нас окружает именно такая действительность, и поход на 3D-фильм для ребёнка — такое же привычное дело, как для его мамы, к примеру, прогулка в булочную с авоськой в руках.

Атрибутика XXI века совсем не портит новые истории. У издания прекрасные иллюстрации: сочные цвета, тёплые и положительные образы. Обезьянка похожа на себя, мультяшную, проказливую, а Вера мила и весела. Картинки забавно и выразительно оживляют рассказ. Книжку желательно читать всей семьёй — смешные словечки, забавные ситуации понравятся детям, а тонкая ирония, сатирические сравнения и фирменный лаконичный стиль писателя будут понятны и близки взрослым. Пускай пройдёт ещё много лет, но дети будут подпевать: «Она иностранка, она интуристка, она обезьянка по кличке Анфиска...»

## ДРУЖАТ ФЕИ И РУСАЛОЧКИ

Всем известно, что девочки любят воображать себя прекрасными принцессами или добрыми волшебницами. Не случайно итальянский мультсериал о феях Винкс завоевал такую популярность среди маленьких мечтательниц. Теперь с любимыми героинями можно познакомиться в книге **«Русалочки. Феи Винкс в подводном мире Андрос»,** выпущенной издательством «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Большой формат, разворачивающиеся странички — так, что получается четыре листа, — позволяет иллюстрациям смотреться особенно эффектно. Пожалуй, это особенно важно в случае, когда язык текста не слишком приближен к чистому, литературному, а является пересказом сценария.




Итак, рыжеволосая, огненная Блум и её подруги — солнечная Стелла, любительница природы Флора, меломанка Муза, заводная Лейла и мудрая Текна — продолжают бороться с силами зла. Приключения начались с того, что Блум приснился страшный сон, тёмное предзнаменование, где русалочкам грозила большая опасность. Не долго думая, дружные феи отправляются в подводный мир Андрос, дворец королевы Лиджии, которая дала им дар русалок, чтобы спасти морских красавиц от беды. Оказалось, во всём виноват ужасный монстр!

В череде невероятных превращений и захватывающих сражений Винкс и русалочки противостоят наводящему страх Кракену, стремясь к окончательной победе доброй магии. Книжка привлекает ещё и тем, что проповедует дружбу, любовь к ближнему, взаимопонимание, уверенность в своих силах, надежду на будущее.

**Мария ВОЙТИК**

# «Мой водблеск змучанай душы»




*Бацькі Вісарыёна Гарбука Сцяпан Лявонцьевіч і Ганна Васільеўна. Полацк, 1910 г.*

Ёсць людзі, на чый лёс выпадае столькі выпрабаванняў і нягод, што іх хапіла б на сотню чалавек. Войны і хваробы калечаць іх целы, за свае перакананні яны трапляюць у высылкі і за краты, лёс забірае іх родных і блізкіх, але горды дух і непахісная воля дапамагаюць рухацца па жыцці і дасягаць пастаўленых мэт. Такім чалавекам быў пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР Вісарыён Сцяпанавіч Гарбук.

Ён нарадзіўся 24 лістапада 1913 года ў вёсцы Шкілякі Полацкага павета Віцебскай губерні, у сям'і беднага селяніна Сцяпана Лявонцьевіча Гарбука і яго жонкі Ганны Васільеўны. Бацька, каб пракарміць сям'ю, быў вымушаны паехаць у Петраград, дзе працаваў кандуктарам трамвая. Ён памёр, калі Вісарыёну споўнілася чатыры гады. Маці з маленькім сынам забралі да сябе яе родныя браты, Прохар і Іосіф Ключонкі, якія працавалі настаўнікамі Дварэцкай пачатковай школы. Вось тут і адбылося знаёмства Вісарыёна з маім бацькам, Пятром Яўстаф'евічам Вашчанкам. Яны сядзелі за адной партай, і будучы пісьменнік навучыў майго тату гуляць у шахматы. У братоў Ключонкаў была добрая хатняя бібліятэка, і хлопчыкі з задавальненнем гарталі тамы ілюстраванай гісторыі Расіі, Старажытнай Грэцыі і Рыма, выпускі часопіса «Былое» і танюткія, на шэрай паперы экзэмпляры газет «Правда» і «Известия» першых дзён рэвалюцыі. Асабліва падабалася Вісарыёну кніга Джона Рыда «Дзесяць дзён, якія ўзрушылі свет». Наогул, яго на ўсё жыццё захапілі рэвалюцыйныя ідэі свабоды і роўнасці людзей.

Пасля вучобы ў Чашніцкай сямігадовай школе рабочай моладзі Вісарыён паступае ў Лепельскі педагагічны тэхнікум, а пасля заканчэння вяртаецца працаваць настаўнікам у Дварэцкую няпоўную сярэднюю школу. Два гады ён вучыў маю маці. Мае бацькі ўвогуле заўсёды з вялікай павагай і ўдзячнасцю ўспаміналі Гарбука і пасля вайны паведамлялі яму ў Пяцігорск навіны з роднай Беларусі.

Падчас вучобы ў педтэхнікуме Вісарыён пачынае займацца фарміраваннем характару, загартоўвае волю. З дапамогай фізічных практыкаванняў, гімнастыкі, лыжных прабежак ён здолеў перамагчы сухоты, на якія хварэў на пачатку трыццатых гадоў. Ён вырашыў, што ніколі не будзе піць, курыць, брыдкасловіць і дажыве да ста год. І магчыма, каб не вайна і выкліканая ёй невылечная хвароба, ён здолеў бы ажыццявіць свае планы.

У 1935 годзе здзейснілася даўняя мара Вісарыёна: яго перавялі на стацыянарнае аддзяленне літфака. Ён апынуўся ў Мінску — цэнтры вялікай літаратурнага жыцця Беларусі. З хваляваннем углядаўся ў твары Купалы, Коласа, Крапівы, Гартнага. Незабыўнымі сталіся знаёмствы з Чаротам, Бядулем, Хведаровічам, якія здзівілі пісьменніка-пачаткоўца гарачым жаданнем дапамагчы моладзі ў яе літаратурных памкненнях. Вісарыён займаецца ў секцыі пачынаючых паэтаў, піша вершы.

Здавалася, наперадзе шчаслівая літаратурная дарога… Але ў канцы красавіка 1936 года нехта данёс у НКУС, што ў студэнцкім інтэрнаце ў час спрэчак з курыльшчыкамі на довад: «І таварыш Сталін курыць» Вісарыён адказаў: «Для мяне ў падобных пытаннях нават сам Сталін не з'яўляецца аўтарытэтам». Хлопца адправілі на Калыму. Гэта было першым, але далёка не апошнім выпрабаваннем характару і духу. Аднак і ў лагеры, за калючым дротам, ён не губляў веры ў справядлівасць. Толькі ад аднаго з перакананняў яму давялося адмовіцца: ён зразумеў, што ад чалавека не заўсёды залежыць яго ўласны лёс.

У пачатку 1940 года Вісарыён з далёкай Калымы вярнуўся на родную Віцебшчыну і быў накіраваны настаўнікам у Мехаўскую сярэднюю школу. Але доўга папрацаваць не паспеў — грымнула Вялікая Айчынная вайна. Вісарыёна прызвалі ў Чырвоную армію, дзе ў інжынерных войсках ён асвоіў новыя прафесіі: быў тапографам, рэкагнасцыроўшчыкам, будаўніком. Узвядзенне абарончых рубяжоў на Доне, у Калінінскай вобласці, у роднай Беларусі, пад Арлом, на Вісле і Одэры, будаўніцтва траншэй, дотаў, камандных пунктаў, мастоў і пераправ было яго паўсядзённай ваеннай працай. Дзень Перамогі Вісарыён Сцяпанавіч сустрэў у Берліне і з гонарам пакінуў аўтограф на сценах рэйхстага. Ён ужо рыхтаваўся разам з сябрамі-вайскоўцамі вярнуцца на Радзіму, як здарылася непрадбачанае: на пачатку 1946 года цяжка захварэў на поліартрыт… Ваенныя будні, падчас якіх узводзіў пераправы, стоячы па грудзі ў ледзяной вадзе, холад салдацкіх зямлянак, бруд мінных палёў не прайшлі бясследна. Пакутлівая хвароба, якая суправаджалася высокай тэмпературай і нясцерпным болем пры найменшым руху, на доўгія чатырнаццаць гадоў прыкавала яго да бальнічнага ложка. Але зламаць волю Вісарыёна не магло нішто. Хлопец глушыў боль спевамі, дэкламацыяй вершаў, жартамі. Шмат апавяданняў ён напісаў на шпітальным ложку. В. Гарбука па праве можна назваць беларускім Мікалаем Астроўскім; нездарма «Як гартавалася сталь» была адной з яго любімых кніг. Ён вытрымаў усе спосабы лячэння, пабываў у дваццаці пяці клініках і шпіталях. Штодзённая барацьба за кожны міліметр руху дала вынікі: у 1960 годзе Вісарыёна Сцяпанавіча выпісалі дадому інвалідам Вялікай Айчыннай вайны першай групы. А дома ўжо даўно не было: яго родных у сакавіку 1944 года разам са 114 мірнымі жыхарамі спалілі немцы ў вёсцы Вішанькі.



*Вісарыён Гарбук — студэнт літфака, 1930-я гады.*

Але дзяржава не пакінула героя: Вісарыён Сцяпанавіч атрымаў кватэру ў Пяцігорску. Там ён працягваў заняткі літаратурнай дзейнасцю. Яго кватэра ператварылася ў сапраўдную літаратурную гасцёўню, куды часта па параду заходзілі маладыя літаратары. У 1963 годзе ў Мінску выходзіць у свет першы зборнік апавяданняў Вісарыёна Гарбука — «Не шукаю спакою». У тым жа годзе Вісарыён Сцяпанавіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. У 1979 годзе Гарбуку было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. І да апошніх дзён жыцця (а памёр ён 8 жніўня 1986 года) Вісарыён Сцяпанавіч быў у гушчы грамадскага і літаратурнага жыцця.



*Вісарыён Гарбук, 1946 год.*

Пасля смерці пісьменніка яго архіў быў перададзены ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ён налічвае ажно 540 адзінак захоўвання і ўтрымлівае рукапісы, творы, лісты, фотаздымкі пісьменніка. Але асаблівую каштоўнасць уяўляюць яго ваенныя дзённікі — тры нататнікі, спісаныя дробным каліграфічным почыркам. З іх друкаваліся толькі невялікія фрагменты, а як было б цудоўна выдаць іх да юбілею Перамогі! Прывяду кароткі фрагмент з дзённікавых запісаў.

*«Белорусская молодёжь настолько пропитана советским духом, что нельзя рассчитывать на какие-либо изменения в её настроениях».*

*«Дойче цайтунг ин Остланд».*

*Але гэта так.*

*Шчыра дзякую табе, мая краіна, за ўсё, што ты мне дала, што ты мяне выхавала такім.*

*Кім бы я быў без цябе? Батраком у пана, пастухом у пана, бедняком без каня, або папаў бы ў цэпкія лапы ўласніцкай ідэалогіі кулака, гандляра ці загінуў бы ў катарзе барацьбітом за лепшую долю народа.*

*Хто я цяпер?*

*Я атрымаў асвету, я атрымаў светапогляд грамадзяніна Зямлі, ведаю, як і за што змагацца, ведаю, дзе ляжыць шлях развіцця грамадства, мне з дзіцячых гадоў прывіты лепшыя ідэі чалавецтва, і я сябе, мая дарагая Радзіма, з гордасцю адчуваю пераемнікам і носьбітам культуры чалавецтва. Хто з беларускай моладзі не скажа гэтага? Ці можна разлічваць на змену настрояў людзей майго пакалення, выхаванага піянерскім атрадам, школай, камсамолам, выхаванага партыяй, Радзімай? Нікому не зламаць волі савецкай моладзі, волі да паўнакроўнага творчага жыцця, як нікому не вырваць з памяці піянерскіх кастроў, любімых настаўнікаў, студэнцкіх гутарак, прачытаных кніг, спетых песень, не вырваць з памяці палеткаў роднага калгаса, мітусяніны свайго горада — не вырваць з памяці вобліка сваёй Радзімы — свайго жыцця і шчасця.*

6 апреля 1942 года.

**(Фонд 234, вопіс 2, справа 44)**

*Мой водблеск змучанай душы,*
*Мая сястра на раздарожжы,*
*Якім нам словам варажыць,*
*Каб сны хоць шчасцем*
*прыгожыць?*
*Разбуран дом, няма сям'і,*
*Разносіць вецер папялішча.*
*Хоць частку болю адымі,*
*Хоць на хвіліну гора знішчы.*
*Здаецца, узлётам маладым*
*Ніколі шчасця ўжо не песціць.*
*Няма ўжо сілы быць адным,*
*Жыццё, як крык пакуты, несці.*
*Дай прытуліцца да грудзей,*
*Дай сінь вачэй тваіх убачыць.*
*Мо ў іх крыніца для надзей,*
*Няма ўжо чым*
*шляхі мне значыць.*
*Скрозь годы смерці я прайшоў,*
*Не пахіснуўшыся ні разу,*
*А зараз, зранены душой,*
*Хоць бы ў міраж*
*дзіцячых казак.*
*Пытаеш сінь маіх вачэй,*
*Як я, шукаеш пераулку.*
*Як я —*
*у бяссоннасці начэй*
*Трывожыш сэрца*
*цяжкай думкай.*

13 июля 45.

**(Фонд 234, вопіс 2, справа 45)**

*Аўтар выказвае падзяку Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва за прадастаўленыя матэрыялы.*

**Аляксандр ВАШЧАНКА**



Сцэна з балета «Сем прыгажунь».

# Беларускія акцэнты ўсходняй казкі

23 і 24 лістапада Вялікі тэатр Беларусі запрашае на трэцюю балетную прэм'еру ў гэтым тэатральным сезоне. Увасабленне на беларускай сцэне набудзе ўсходняя філасофская казка «Сем прыгажунь» на музыку генія азербайджанскай музыкі Кара Караева. Кампазітар стварыў балет па матывах твора аднаго з найвялікшых паэтаў сярэднявечнага Усходу — Нізамі. У аснову спектакля лягла чацвёртая паэма з яго несмяротнай «Пяцерыцы», напісанай у 1197 годзе. У яе, разам з апісаннем жыцця і подзвігаў шаха Бахрама, уключаны казачныя навелы, расказаныя сямю жонкамі Бахрама — сямю царэўнамі з сямі краін свету. Пра прэм'еру і супрацоўніцтва з беларускім балетам расказаў «ЛіМу» расійскі харэограф-пастаноўшчык Юрый Пузакоў.

**— Балет «Сем прыгажунь» перажыў шмат рэдакцый, яго лібрэта перапісваліся ў адпаведнасці з сацыяльным кантэкстам і павевамі часу. Сэнс спектакля вельмі сур'ёзна мяняўся — ад філасофскіх разваг пра адказнасць урада перад народам да тэмы імкнення да недасяжнага ідэалу... Для Вялікага тэатра Беларусі вы стварылі сваю версію гісторыі пра сем прыгажунь...**

— Усе ідэі, якія закраналіся ў розных рэдакцыях лібрэта гэтага спектакля, ёсць і ў нас. Але я хацеў бы адысці ад сацыяльнага, ідэалагічнага падтэксту, які існаваў у першай рэдакцыі 1952 года, калі час быў зусім іншым. Мы павінны быць бліжэй да сённяшняга дня. Таму ў нас на першы план выходзяць тэмы, актуальныя заўсёды: каханне і вераломства, вернасці і здрады. Галоўны герой спектакля шах Бахрам праходзіць мноства выпрабаванняў на трываласць і сілу характару, каб у выніку зразумець самае галоўнае: нельга здраджваць каханню і сваім ідэалам. Калі я пачаў чытаць Нізамі, то быў захоплены сюжэтам і мудрасцю, закладзенай у твор. Для разумення гэтай гісторыі, мне здаецца, вельмі важная думка, якая ёсць у паэта: «Знай, кто требует немного, много тот возьмёт. А страстей своих невольник в нищету уйдёт». Людзі гоняцца за неажыццяўляльнай марай і губляюць усё ў пагоні за ёй. Гэта таксама адна з асноўных ідэй нашага спектакля.

**— Вы ставіце спектакль на музыку легендарнага азербайджанскага кампазітара Кара Караева. Як вы думаеце, чаму яго балет «Сем прыгажунь» сёння такі любімы і папулярны?**

— Ёсць кампазітары, якія належаць не толькі нацыі, свайму народу, але і ўсяму свету. Кара Караеў з гэтай плеяды. Увасобіўшы ў сваёй музыцы народны дух, ён апынуўся надзвычай цікавым і прадстаўнікам іншых культур. У яго балеце «Сем прыгажунь» вельмі моцны нацыянальны складнік, і адначасова ў ім ёсць нешта наднацыянальнае, зразумелае ўсім, што знаходзіць водгук у сэрцах жыхароў розных краін. Нездарма «Сем прыгажунь» ставіліся і паказваліся па ўсім былым Савецкім Саюзе, мелі вялікі поспех у Еўропе — у прыватнасці, у Францыі і Швецыі.

**— Цікавым гэты балет, безумоўна, робіць і яго відовішчнасць...**

— Праца мастака — калі не палова поспеху, то вельмі значная яго частка. Я вельмі рады, што ў нас склаўся выдатны творчы саюз з мастаком-сцэнографам Аляксандрам Касцючэнкам і мастаком па касцюмах Кацярынай Булгакавай. Дзякуючы іх працы — маляўнічым дэкарацыям, якія выкананы ў традыцыйных колерах Усходу, і прыгожым, разнастайным і складаным па тэхніцы выканання касцюмам — спектакль набудзе тую казачнасць, яркасць і паэтычнасць, якія ёсць у гэтай гісторыі.

**— Вы працуеце з беларускім балетам не першы раз. Якой вы запомнілі трупу ў апошні свой прыезд у Мінск і якой убачылі яе цяпер?**

— Я стаўлю тут ужо трэці спектакль, да «Сямі прыгажунь» былі «Каханне пад вязамі» і «Папялушка» (апошні спектакль, дарэчы, ідзе ў рэпертуары і па сёння). Так што Вялікі тэатр Беларусі ўжо даўно стаў для мяне родным. Я бачу, што моцна ўзрасла загружанасць трупы, афіша тэатра надзвычай насычаная і разнастайная, адпаведна артысты вельмі шмат працуюць. Але, на шчасце, яны прагнуць жаданнем працаваць. А яшчэ я вельмі рады, што трупа папоўнілася новымі маладымі «зорачкамі», якія стануць у будучым апорай тэатра. Так, напрыклад, у «Сямі прыгажунях» у мяне рэпеціруюць нядаўнія выпускніцы харэаграфічнай гімназіі-каледжа Яна Штангей і Вераніка Грудзіна, яны абедзве — індывідуальнасці, а гэта самае дарагое, што можа быць у мастацтве. Вядома ж, у спектаклі ніяк не абысціся без ужо прызнаных майстроў. У галоўнай партыі шаха Бахрама можна будзе ўбачыць вядучых салістаў тэатра, добра знаёмых публіцы: Антона Краўчанку, Ягора Азаркевіча і Ігара Аношку. Гэта вельмі цікавыя танцоўшчыкі, кожны з іх па-свойму інтэрпрэтуе вобраз свайго героя. У новым амплуа выступіць улюбёнец публікі Канстанцін Кузняцоў, у яго адмоўная роля — Візір. У партыі Мензера ў розных складах у нас будуць працаваць бліскучы Канстанцін Геронік, а таксама ўладальнік цудоўнай тэхнікі і на дзіва выразны артыст Такатошы Мачыяма. І гэта далёка не ўсе выдатныя танцоўшчыкі беларускай балетнай трупы, якіх можна будзе ўбачыць у балеце «Сем прыгажунь»...

**— Гэта значыць, мае сэнс параіць гледачам прыйсці на спектакль некалькі разоў і паглядзець розныя склады артыстаў?**

— У мяне ёсць тры крытэрыі вызначэння таленавітага твора. Захацеў бы ты прыйсці на гэты спектакль яшчэ раз? Параіў бы яго сваім сябрам і блізкім? Ці бягуць у цябе «мурашкі» па скуры, калі ты ў глядзельнай зале? Спадзяюся, на ўсе гэтыя пытанні гледачы нашага спектакля адкажуць станоўча і зноў вернуцца ў Вялікі тэатр.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ,**
**фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь**

# Застанецца... медаль!



Сярод манументальных і дызайнерскіх форм, здаецца, цяжка сканцэнтраваць увагу на дробных мемарыяльных адлюстраваннях з бронзы, латуні ці сілуміна. Аднак ім наканавана больш за іншыя буйнафарматныя ўзоры сведчыць пра наш час у будучым. Напрыклад, многія цывілізацыі старажытных часоў пакінулі пра сябе памяць, дзякуючы перш за ўсё манетам з памятнымі тэкстамі і выявамі ўладароў, боствАў, архітэктурных помнікаў, што зніклі назаўжды.

У перыяд станаўлення і ўмацавання нашай дзяржавы медальеры маюць магчымасць штогод распрацоўваць памятныя тэмы значных гістарычных падзей, юбілеяў, новых дасягненняў. Многае робіцца, але шмат застаецца па-за агульнай увагай.

Валерый Калясінскі з'яўляецца адным з вядучых беларускіх медальераў, які імкнецца творча рэагаваць на самыя розныя прафесійныя выклікі, каб не губляць магчымасць узяць значнасць гістарычных і сучасных падзей у жыцці нашай краіны. Яго персанальная выстаўка пад назвай «Медалі, манеты. Малюнак» у Дзяржаўным гісторыка-літаратурным музеі Якуба Коласа стала значнай падзеяй у адкрыцці новых тэм і вобразаў для айчыннай, замежнай фалерыстыкі і нумізматыкі. Скульптар выразшыў прадэманстраваць не толькі памятныя медалі, жэтоны, медальёны, але і паказаць шматэтапны працэс іх стварэння: гіпсавыя рэльефныя мадэлі павялічаных памераў, паменшаныя да патрэбнай велічыні пробныя адбіткі, металічныя штампы для тыражавання ўзораў, арыгінальныя ўзоры з дэталёва выпрацаванымі аверсам і рэверсам. Такі прынцып экспазіцыі падаецца цікавым і змястоўным, бо сёння далёка не кожны глядач ведае, як ствараюцца памятныя медалі.

Якубу Коласу мастак прысвяціў медаль «Першы Колас беларускай культуры» і, упершыню ў выставачнай практыцы, — памятны жэтон. Творца па-мастацку адзначыў і юбілей беларусазнаўца-этнолага Яўхіма Карскага. На выстаўцы былі прадстаўлены ўзоры медалёў, прысвечаныя Навагрудку і Нясвіжу, дзе выдатна вырашаюцца геральдычныя і архітэктурныя сімвалы гістарычных цэнтраў нашай краіны.

Скульптурнае мастацтва імкнецца (не без поспеху!) своечасова рэагаваць на значныя юбілейныя падзеі. Аднак вельмі складана завяршыць працу над манументальным помнікам. З медалём жа вырашальным з'яўляецца пытанне творчай адказнасці аўтара і яго веры ў неабходнасць стварэння актуальнай і лаканічнай кампазіцыі. Тады і час, і фінансаванне абавязкова знойдуцца. Напрыклад, аўтар упершыню ўвасобіў у айчынным медальерстве такія тэмы, як «Бярэзіна» 1812 — 2012», «Вызваленне Івянца ў 1943 г. партызанскімі намаганнямі» і інш.

Валерый Калясінскі здолеў пераканаць шматлікіх гледачоў у вартасці свайго занятку. Яго віталі прадстаўнікі клуба калекцыянераў, даследчыкі нацыянальнай культуры, вядомыя літаратары. Майстра поўны новых ідэй і планаў, шчыра ўпэўнены, што яго медалі будуць з кожным годам павялічваць сваю культурную вартасць.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Вайскоўцы на карцінах

У мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага адкрылася выстаўка Студыі ваенных мастакоў «Спадкаемцы Перамогі», прысвечаная 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Прайшло ўжо дзесяць гадоў, як працуе вышэйзгаданая студыя. Яе кіраўнік, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Апіёк, лічыць галоўнай мэтай аб'яднання беларускіх мастакоў розных пакаленняў развіццё ваенна- і геराічна-патрыятычнай тэмы ў выяўленчым мастацтве, а асноўнай задачай — стварэнне і прапаганду высокамастацкіх твораў, што выхоўваюць патрыятызм і маральнасць чалавека. За час існавання Студыі ваенных мастакоў было праведзена больш як 30 выставак у музеях сталіцы, абласных гарадах і раённых цэнтрах, гарнізонах, а таксама персанальныя выстаўкі ўдзельнікаў студыі народных мастакоў Беларусі Георгія Паплаўскага і Івана Міско, заслужаных дзеячаў мастацтва Беларусі Мікалая Апіёка, Леаніда Дударэнкі, Уладзіміра Цэрабуна, Уладзіміра Уродніча, мастакоў Уладзіміра Гардзеенкі, Георгія Лойкі, Аляксея Кузьмiча і іншых.

У экспазіцыі наведвальнікі ўбачылі творы ваеннай тэматыкі: армейскае жыццё, ваенныя вучэнні, а таксама рэалістычныя пейзажы, напісаныя ў розныя часы. Мастакі студыі праз творы імкнуцца данесці сённяшняй моладзі тое, што перажыта старэйшым пакаленнем, і захаваць у памяці нашчадкаў подзвіг, якому няма роўнага ў гісторыі. Гэта і падзяка ўсім, хто прынёс нам Вялікую Перамогу. Вобразнае адлюстраванне воінскага подзвігу, лёс грамадзяніна і патрыёта — сімвал гонару і доўгу пакалення вогненных 40-х. Усё гэта шырока адлюстравана ў сюжэтна-тэматычных карцінах і партрэтах выстаўкі. Тэма сучаснасці ў палотнах розных жанраў прысвечана павазе да працы, духоўнаму жыццю сённяшніх воінаў.



Замалёўкі на ваенных вучэннях «Захад-2013». Малюе Мікалай Апіёк.

На адкрыцці выстаўкі «Спадкаемцы Перамогі» з прывітальным словам выступіў былы прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, акадэмік Расійскай АН Мікалай Барысевіч. Ён перадаў галерэі ў дар карціну Народнага мастака Міхаіла Савіцкага «Пераправа», якую аўтар у свой час прэзентаваў Мікалаю Барысевічу.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Неабсяжная творчасць у сугуччы сэрцаў

**Інфармацыйнай нагодай для правядзення ў прэс-цэнтры Дома прэсы «круглага стала» пад назвай «Сугучча: сучаснае міжнароднае літаратурнае супрацоўніцтва на прасторы Садружнасці Незалежных Дзяржаў» сталася пасяджэнне Міждзяржаўнага савета краін СНД па кнігавыданні, якое праходзіла нядаўна ў Мінску.**



*Эдуард Мілітанян.*



*Алесь Бадак.*

Як вядома, у Выдавецкім доме «Звязда» рэалізуюцца шматлікія праекты, звязаныя з міжнароднымі літаратурнымі стасункамі. Сёлета ўбачыла свет кніжная серыя «Сугучча сэрцаў», якая з'яўляецца сапраўднай пляцоўкай для міжнароднай літаратурнай дыпламатыі. Новая кніжная серыя складаецца з 11 тамоў. У выданнях прадстаўлена творчасць пісьменнікаў і паэтаў краін СНД пасля 1991 года, фактычна з часу стварэння гэтай міждзяржаўнай супольнасці. А сам выпуск прымеркаваны да старшынства Беларусі ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Дарэчы, прэзентацыя серыі прайшла ў Быхаве падчас святкавання Дня беларускага пісьменства, а таксама на выстаўках у Расіі, Украіне, Германіі, Азербайджане.

— Кнігі падрыхтаваны такім чынам, што адна частка прадстаўляе літаратуру той ці іншай краіны, якая ўваходзіць у СНД, другая змяшчае сучасныя беларускія творы, — распавёў дырэктар-галоўны рэдактар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч. — Складальнікам усіх выданняў выступіў намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак. Чаму атрымалася 11 кніг? Справа ў тым, што два выданні прадстаўляюць Расійскую Федэрацыю: першы том, «С думой о Родине», прысвечаны рускай літаратуры, другі пад назвай «Звёздный родник» прэзентуе творы прадстаўнікоў народаў краіны-суседкі: чувашаў, удмуртаў, татар і інш. Усе выданні рыхтаваліся ў цесным супрацоўніцтве з нацыянальнымі саюзамі пісьменнікаў. Адной з першых была кніга, прысвечаная Азербайджану. Тут нам вельмі дапамог загадчык выдавецкага сектара Міністэрства культуры і турызму Азербайджана Чынгіз Аліаглу. Тое ж самае можна сказаць і пра стасункі з армянскім бокам. Вялікую ўвагу аказалі нам у Казахстане. Адным словам, гэта кнігі, створаныя міжнароднай пісьменніцкай супольнасцю.

Прадстаўнік Азербайджана Чынгіз Аліаглу зазначыў: «Калі мы даведаліся пра з'яўленне такой цудоўнай бібліятэчкі, то сама ідэя нас вельмі ўразіла. Перш за ўсё таму, што пасля развалу Савецкага Саюза цесных літаратурных стасункаў не назіралася. Гэты праект на самой справе радуе мяне і як літаратара, і як чалавека. Нашы беларускія сябры ўважліва і скрупулёзна паставіліся да выбару аўтараў, зразумела, патрацілі шмат сіл і часу, каб здзейсніць задуманае. Хочацца падзякаваць усім, хто меў дачыненне да рэалізацыі праекта. Мы таксама рыхтуем кнігу прозы і паэзіі азербайджанскіх і беларускіх творцаў. Праўда, праца над ёю крыху зацягваецца з-за таго, што творы трэба перакласці на азербайджанскую мову, але, упэўнены, выданне стане цікавым падарункам для нашых чытачоў. Разлічваем, што да Новага года ўбачыць свет вялікая кніга для дзяцей Алеся Карлюкевіча. Удзячны беларускаму боку за тое, што прадаставілі афармленне кнігі з цудоўнымі малюнкамі. Чым больш беларускае слова будзе гучаць у Азербайджане, тым больш нашы народы будуць ведаць адзін аднаго, тым больш духоўна ўзбагацяцца.

Неабходна заўважыць: нягледзячы на тое, што серыя



*Чынгіз Аліаглу.*

«Сугучча сэрцаў» прысвечана сучаснай літаратуры краін СНД і адлюстроўвае творчы працэс за 20 апошніх гадоў, у кожнай беларускай частцы ёсць і творы айчынных класікаў, якія яшчэ нядаўна шчыравалі на ніве прыгожага пісьменства: Васіля Быкава, Янкі Брыля, Івана Чыгрынава, Івана Шамякіна і інш. «Прасоўваючы сучасны літаратурны працэс, нельга забывацца пра традыцыі, пра тое, што з'яўляецца асновай мастацкай літаратуры, — зазначыў Алесь Карлюкевіч.



*Мікола Мятліцкі.*

— Мы стараліся прадставіць у першую чаргу класічныя творы, якія прайшлі апрабацыю часам і мелі поспех у чытачоў.

— У лютым гэтага года мы дамовіліся пра выданне сумеснага зборніка, але не верылася, што задуманае так хутка спраўдзіцца, — падкрэсліў старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдуард Мілітанян. — Нават здзіўляюся, як беларускія сябры змаглі за такі кароткі час выпусціць 11 кніг. Сучасныя пісьменнікі маюць патрэбу ў тым, каб іх ведалі ў іншых краінах. Прыемна, што Выдавецкі дом «Звязда» і часопіс «Нёман» заўважаюць нашых аўтараў: у беларуска-армянскім зборніку прадстаўлена творчасць знакамітых празаікаў і паэтаў. Амаль усе яны атрымалі ў сябе на радзіме дзяржаўныя прэміі ці прэміі Прэзідэнта Арменіі. У сваю чаргу, мы плануем выдаваць на армянскай мове творы беларускіх пісьменнікаў.

Што да беларуска-казахскіх зносін, то, як трапна заўважыў Алесь Карлюкевіч, па іх можна праводзіць асобную прэс-канферэнцыю. Некалькі тыдняў таму ў Выдавецкім доме «Звязда» і на Дзяржыншчыне гасцявалі пісьменнікі з Казахстана, якія прыехалі, каб ушанаваць памяць вядомага беларускага асветніка Адольфа Янушкевіча. Знаходзячыся ў ссылцы як удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, ён шмат зрабіў для захавання культурнай спадчыны казахаў. У XIX стагоддзі яго кнігі былі выдадзены ў Францыі, сёння яны перакладаюцца ў Казахстане.

— Сапраўды, Адольф Янушкевіч — той чалавек, які распаўсюдзіў казахскую культуру па свеце, пашырыў межы маёй краіны, — распавёў намеснік старшыні Камітэта інфармацыі і архіваў Міністэрства культуры і інфармацыі Рэспублікі Казахстан Арыстанбек Нурмаханаў. — Я вельмі ганаруся тым, што знаходжуся на беларускай зямлі, бо мы гістарычна звязаны. Гаворачы пра літаратурныя стасункі двух народаў, хацеў бы зазначыць: серыя «Сугучча сэрцаў» магла мець і назву «Не ведаючы межаў». Сапраўды, гэтыя словы дакладна акрэсліваюць сувязі, якія ўстанавіліся паміж Казахстанам і Беларуссю. Яны ахопліваюць не толькі палітычныя, эканамічныя ды сацыяльныя зносіны, але і духоўныя. У красавіку гэтага года ў Алма-Аце падчас міжнароднай кніжнай выстаўкі мы дамовіліся з беларускім бокам пра выданне сумеснага зборніка, а цяпер ужо маем духоўны мосцік, які злучае нас. Хацеў бы адзначыць яшчэ адно выданне, прысвечанае філосафу, мысліцелю, вялікаму паэту Казахстана, — кнігу «Абай», якую пераклаў на беларускую мову Мікола Мятліцкі. Падобныя праекты па-сапраўднаму збліжаюць, дазваляюць спазнаць духоўнасць нашых краін.

— Тое, што мы робім сумесна, выклікае, мабыць, у кагосьці вялікае здзіўленне, — зазначыў Мікола Мятліцкі. — Аказваецца, можам, бо не пагасла іскра вялікага сяброўства, якое нарадзілася ў савецкія часы. Я лічу, іншы раз дастаткова пазнаёміцца з творчасцю аднаго паэта, каб улюбіцца ва ўвесь народ. Для мяне такім творцам стаўся Абай — духоўны фундамент для свайго народа.

Чаму кнігі выдадзены на рускай мове? На гэтае пытанне адказаў Алесь Бадак, які падкрэсліў, што міжнародны літаратурны праект, безумоўна, узбагаціў беларускую культуру. «Серыя ўбачыла свет на мове, якую мы ўсе разумеем, на якой мы можам размаўляць адзін з адным, — патлумачыў выступоўца. — Гэтыя кнігі трапілі ва ўсе краіны СНД. Магчыма, іх чытачы і не здагадваліся, якая цудоўная літаратура існуе побач. Калі не будзем перакладаць нашых суседзяў, збядненюць не яны, а мы самі».

Усе выданні серыі выкананы ў адным стылі. Як адзначыла намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут, спачатку было шмат варыянтаў. Па прапанове першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч вырашылі не толькі аб'яднаць пісьменнікаў, але і падкрэсліць іх нацыянальныя рысы. На вокладцы кожнай кнігі адлюстраваны слуцкі пояс і нацыянальны арнамент той краіны, чые творцы прадстаўлены на яе старонках.

Падчас «круглага стала» прагучала, што Выдавецкі дом «Звязда» плануе выпусціць серыю дзіцячых кніг краін СНД. Прэзентацыя першага выдання адбудзецца ў лютым наступнага года на XXI Мінскай міжнароднай кніжнай



*Арыстанбек Нурмаханаў.*

выстаўцы-кірмашы. Праект (яго назва пакуль не агучваецца) разлічаны на некалькі гадоў і арыентаваны на масавага чытача. Кнігі дзіцячай бібліятэчкі выйдуць прыблізна ў такім масавым фармаце, як і выданні серыі «Сугучча сэрцаў». Паводле Алеся Карлюкевіча, спрыяць праекту будзе міжнародная канферэнцыя дзіцячых пісьменнікаў СНД, якая пройдзе ў Беларусі ў другой палове 2014 года.

— Акрамя гэтага, у выдавецкім доме «Звязда» запланаваны выхад мініанталогій, — дадаў Алесь Бадак. — Ужо падрыхтавана да друку кніга сучасных украінскіх апавяданняў на беларускай мове. Вельмі дапамог Саюз пісьменнікаў Украіны, бо нам самім выбраць з дзвюх тысяч членаў гэтай суполкі самых лепшых творцаў было б вельмі складана. Наперадзе — сумесная праца з пісьменніцкімі саюзамі Арменіі, Азербайджана, Казахстана…

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

# Васіль ДАДАЛКА: «Давайце канструктыўна выкарыстоўваць свой інтэлект»

Ужо два месяцы старшынёю Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду (размешчаны ў Доме літаратара, вул. Фрунзэ, 5) працуе Васіль Дадалка. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Публіцыст. Вучоны. Доктар эканамічных навук, прафесар.
Наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком грамадскай арганізацыі і задаў шэраг пытанняў пра работу Літфонду і планы на бліжэйшы час.



Фота Кастуся Дробава

**— Каго аб'ядноўвае арганізацыя?**

— Безумоўна, у Літфонд уваходзяць члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, але не толькі. Мы гатовыя працаваць дастаткова шырока. А значыць — аб'ядналь усіх, каму цікавае мастацкае слова, хто спрабуе свае сілы ў самых розных жанрах літаратуры.

**— Якія задачы ставіць перад сабою фонд?**

— Літаратура — гэта чалавеказнаўства. На працягу ўсяго развіцця чалавецтва цэнтр цяжару ў гэтым руху ляжыць на літаратуры. Менавіта мастацкае слова арганізоўвае жыццё народа, аб'ядноўвае культуру, з'яўляецца яе асновай, стымулюе псіхалогію людзей. Спрыяе станаўленню самасвядомасці, з'яўляецца важнай першакрыніцай адукацыі, існавання, развіцця мовы. Значыць, і зыходзіць з гэтага перакананя трэба…

Літаратура — народная трыбуна. Самасвядомасць кожнага чалавека праз літаратуру — самавызначэнне — самавыяўленне — самадастатковасць — вось асноўныя вектары творчай дзейнасці Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду як арганізацыі аднадумцаў.

**— Калі гаварыць болей канкрэтна, якія кірункі працы становяць асноўныя складнікамі вашай дзейнасці?**

— Мы збіраемся заснаваць цэлы шэраг партнёрскіх праграм. Усе яны будуць скіраваны на падтрымку пісьменнікаў, адпаведна СПБ. Сёння выпрацоўваюцца прапановы для сумеснай дзейнасці. І з банкамі, і з буйнымі рыначнымі структурамі, і з вядучымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі — і ў аграрным сектары, і ў прамысловасці.

Пагадзіцеся, што пісьменнікі — інтэлектуальныя, адукаваныя людзі. Дык давайце навучымся канструктыўна выкарыстоўваць свой інтэлект. Хіба мы не дзеяздольныя, не патрэбныя грамадству?! Чаму б літаратарам не аказаць падтрымку самым розным кампаніям, прадпрыемствам ва ўменні па-майстэрску выкарыстоўваць слова дзеля прапаганды іх прадукцыі, дзеля арганізацыі адпаведнага іміджу той ці іншай галіны вытворчай дзейнасці?.. Такія стасункі павінны быць узаемакарыснымі.

Некалі, як вядома, пры СПБ працавала бюро прапаганды. А чаму б гэтыя функцыі не ўзяць цяпер на сябе нашаму фонду? У склад Саюза ўваходзяць паэты-песеннікі, драматургі і г. д. Мы свабодна маглі б арганізаваць літаратурнаканцэртную дзейнасць з разлікам, што прадпрыемствы — спярша, магчыма, буйныя гаспадарчыя структуры — адгукнуцца на такую ініцыятыву. Але ж нам трэба працаваць у супольніцтве з зоркамі эстрады, з вучонымі, псіхолагамі. Выступленні пісьменнікаў павінны быць цікавымі, грунтоўна арганізаванымі. Часам можна з чытаннем вершаў сумясціць не толькі музычную праграму, але і цікавую лекцыю таго ці іншага спецыяліста. Ды і ў СПБ шмат вучоных, дастаткова граматных у вузкіх галінах дзейнасці людзей.

Па-за ўвагай пакуль што і патрыятычныя, дабрачынныя акцыі. Нам трэба як мага больш працаваць з сістэмай адукацыі. І са школамі, і з інстытутамі ды ўніверсітэтамі.

**— Калі гаварыць пра часавыя параметры, што збіраецеся рэалізаваць літаральна заўтра?..**

— Ёсць адна выдатная ініцыятыва, выкладзеная літаратуразнаўцамі Уладзімірам Навумовічам і Іванам Саверчанкам — людзьмі ў беларускай навуцы дастаткова вядомымі. Адзін прадстаўляе ўніверсітэцкую супольнасць, другі — акадэмічную навуку. Мы збіраемся арганізаваць пастаянна дзеючы семінар альбо свайго роду школу. І мяркуем яе назваць наступным чынам: «Народны адкрыты універсітэт моў, літаратуры, культуры і гісторыі». Асноўнай задачай такой грамадскай адукацыйнай ініцыятывы бачым удзел у распаўсюджванні навуковых ведаў, звязаных з прадстаўленнем Беларусі ў свеце. Мы хацелі б пераканаць грамадскасць, дзяржаўныя інстытуты, што сёння адкрываць далёкія краіны можна і неабходна, прэзентуючы сваё, уласнае. Глабалізацыя хутка перастане быць модай. І хто мы тады ў свеце?.. Ва ўніверсітэце збіраемся ліквідаваць адсутнасць ведаў агульнага, культуралагічнага характару, можа быць, нават у дыпламатаў. І ім ужо абавязкова патрэбны грунтоўны «пакет» ведаў пра Беларусь, пра нашу культуру, нашу гісторыю. У межах працы ўніверсітэта плануем наладзіць рознаўзроўневае навучанне. Проста чытаць лекцыі — гэтага мала. Патрэбна стварыць новую адукацыйную мадэль.

**— І як яна будзе выглядаць?**

— Па-першае, арганізоўваем міжнародны ўніверсітэт беларускай мовы, літаратуры і культуры. Пасля — універсітэт рускай славеснасці. А яшчэ — універсітэт маладога літаратара. Гэта ўжо асобны праект. Мяркуем стварыць школы па вывучэнні англійскай мовы і літаратуры, нямецкай мовы і літаратуры, італьянскай мовы, літаратуры і культуры. Не застануцца па-за ўвагай Кітай, Сербія, Турцыя, іншыя краіны, іх культуры і мовы.

**— Такая шматабсяжнасць патрабуе спецыялістаў?**

— А па многіх накірунках яны якраз і ёсць у нашым Саюзе пісьменнікаў, адпаведна і ў Літаратурным фондзе. А яшчэ — і я ўжо пра гэта гаварыў — важна мець на ўвазе партнёрства з іншымі арганізацыямі. Важна ўлічваць, што дзверы Літаратурнага фонду шырока адкрыты для многіх і многіх людзей. Дарэчы, па працы ўніверсітэта ўжо існуе дакладная праграма — з тэмамі лекцый, гадзінамі і г. д.

Я веру, што нашу ініцыятыву заўважаць і дзелавыя колы Беларусі. Прыйдзіце сёння на сур'ёзнае прадпрыемства. Чым там апякуюцца, прымаючы партнёраў з далёкіх краін? Хіба не тым, як прэзентаваць і сябе, і краіну? Часам даводзіцца чуць: «У нас няма што паказаць…» Ды ёсць, даражэнькія, што паказаць. Трэба толькі самім ведаць краіну, уласную гісторыю і ўласную культуру. А то ў нас яшчэ нацыянальнай кухняй болей замежныя рэстаратары займаюцца… Беларусь — «брама» з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Пра вартасці геапалітычнага становішча ідзе размова на ўсіх узроўнях. Дык давайце ўсе і працаваць на асэнсаванне гэтага становішча. Давайце вучыцца прысутнічаць са сваім досведам у свеце.

**— Васіль Аляксандравіч, мне здаецца, Літфонд мог бы паспрыяць і арганізацыі выключна творчых, літаратурных праектаў…**

— Так, мы будзем займацца кнігавыданнем. Усё для гэтага ў нас ёсць. І адпаведная ліцэнзія, і адпаведныя ініцыятывы. Тэхнічную працу не складана арганізаваць…

**— Вы хочаце сказаць, што Літфонд будзе мець сваё выдавецтва?**

— А яно ў нас фактычна ёсць. І шэраг выданняў Літфондам быў выпушчаны раней. Цяпер гэтую працу сістэматызуем, сплануем. Будзем меркаваць, як данесці слова літаратараў, у тым ліку тых, хто жыве ў правінцыі, да чытача. А перш-наперш працуем над пашырэннем прасторы часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы і БРЛФ «Белая Вежа». Збіраемся спачатку павялічыць яго перыядычнасць да шасці нумароў у год.

Літфонд ужо запланаваў шэраг мерапрыемстваў, звязаных з пісьменніцкімі юбілеямі. Думаю, што правядзенне розных вечарын, прэзентацый кніг, творчых імпрэз стане добрай традыцыяй.

Ёсць у нас яшчэ адна задумка. Мяркуем стварыць магутны Інтэрнэт-партал, прысвечаны беларускай літаратуры і не толькі. Адным з яго праектаў будзе і інтэрнэт-крама беларускіх кніг. Шукаем партнёраў у гэтай справе. Тэхнічныя функцыі па стварэнні праекта ўзяла на сябе кампанія Бел Смарт Сістэмс.

**— Васіль Аляксандравіч, застаецца пажадаць паспяховай рэалізацыі вашых ініцыятыў!**

— А гэта магчыма толькі пры ўдзеле шырокай пісьменніцкай грамадскасці, на што я і спадзяюся. Мне імпануе грамадская і творчая актыўнасць кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, асабіста старшыні СПБ Мікалая Чаргінца. Вельмі ўдзячны ўсім за давер, які мне аказалі ў гэтай няпростай справе. І веру, што разам нам удасца многае зрабіць.

Гутарыў
**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Ён сышоў на ўзлёце

У Гродзенскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці адбыўся вечар памяці беларускага пісьменніка Артура Цяжкага.

Артур пражыў няпоўны сорак адзін год, у 1984-м пайшоў з жыцця. Напісаў ён нямала, але выдадзена ўсяго некалькі кніг, дзве выйшлі пры жыцці, дзве — пасля смерці.

Артур назваў свайго сына Максімам. У гэтым была свая логіка — ён любіў творчасць Максіма Багдановіча, Максіма Горкага, білет члена саюза пісьменнікаў яму ўручыў Максім Танк.

Здавалася, у Артура Цяжкага як празаіка і чалавека яшчэ ўсё наперадзе. А ён сышоў так нечакана, на самым узлёце, цалкам сябе не рэалізаваўшы. Ведаю, у жыцці, гісторыі і літаратуры няма месца ўмоўнаму ладу — але калі б...

Ад прозы Артура Цяжкага на ўсё жыццё ў мяне засталося адчуванне лёгкага дыхання, маладой энергіі, светлай паэтыкі, чаканне будучыні, якая наскрозь прасякнута ноткамі трагізму і безвыходнасці.

Два пачаткі, дзве дарогі сышліся ў лёсе і творчасці таленавітага беларускага пісьменніка. Гэта адчуванне незавершанасці творчага шляху жыве і па сёння. Такая маладая, шчырая проза — вясна празаіка. Артур Цяжкі пакінуў пасля сябе ў асноўным малую форму — апавяданні, аповесці, замалёўкі. Не ўсім дадзены рэдкі дар чуць роднае слова, а ён яго ўмеў слухаць і чуць, умеў з ім працаваць. Як умее толькі сапраўдны творца і майстар высокамастацкага слова. Для пісьменніка час — лепшы суддзя. Тыя амаль тры дзесяцігоддзі, якія мінулі пасля сыходу Артура Цяжкага, пацвердзілі якасць яго літаратурнай творчасці.

Не будзем цешыць сябе ілюзіямі. Усіх нас забудуць. Але застануцца нашы дзеці, унукі, а ў пісьменнікаў — яшчэ і кнігі.

Перачытваю кнігу Артура Цяжкага «Дзе мой дом?» 1986 года, выдавецтва «Мастацкая літаратура». Тыраж 6000 экзэмпляраў Рэцэнзент У. Ларчанка, пасляслоўе Г. Шупенькі.

Аповесць «Дзе мой дом?» складаецца з адзінаццаці замалёвак-навел. Назву «Дзе мой дом?» атрымала і ўся кніга. Галоўны герой — Максім, як і сам пісьменнік, — журналіст раённай газеты. Гэта самотны чалавек, ён перасягнуў ужо ўзрост трыццаці гадоў, за спінай застаўся першы досвед не зусім удалага сямейнага жыцця, растанне з першай сям'ёй. Максім наймае чужыя куты, яго асабістае жыццё не ўладкавана і не сагрэта.

Аўтар даследуе жыццё свайго героя, гэта сустрэчы, працоўныя будні газеты, абмеркаванне артыкулаў, блізкія сябры, адносіны з жанчынамі, паездкі дадому, у родную вёсачку да маці. Але акрамя знешняга асяроддзя, якое акружае героя аповесці, самі чытачы пранікаюць ў яго закрыты духоўны свет.

«Вечарам, апустошаны, часам злы, а часам проста абыякавы, пакінеш пракураны кабінет. Будзеш ісці расхрыстанай вуліцай і думаць-гадаць, чым бы запоўніць пустату».

«Што зрабіў, што пакінуў пасля сябе? Артыкулы, як матылькі-аднадзенкі, прамільгнулі і забыліся — каторы адразу, «не збудзіўшы святога сумлення», каторы трохі пазней. Няўжо і сам ты, на фоне вечнасці, прамільгнеш, як той матылёк? Сумна, крыўдна, страшна».

Максім з аповесці думае думкамі і кажа словамі самога аўтара. Колькі ў іх болю і смутку!

«...я й і сам не ведаю, які я. Ці ў мяне душа скалечана, ці яшчэ што? Ні да якога берага не магу прыбіцца. Ад вёскі адарваўся, да горада не прырос. Жыву ў горадзе — плачу па вёсцы. Прыеду, пажыву, агляджуся і зноў пра гэты вір думаю. Цягне нырнуць туды. А тут задыхаюся, як сасна, заціснутая мурамі».

Расчараванні пісьменніка датычаць вечных праблем творчасці, хоць некаторыя сёння могуць прачытацца і скарэкціраваць іх не вельмі ўдала нашым часам.

А які строгі да сябе, да ўласнай творчасці пісьменнік!

«Нашы багі — Ясенін, Бёрнс, Высоцкі. Не сціхай, баргузін, дуй у нашы блакітныя ветразі. Напярад, бадзягі!.. Стоп! А куды ж мы плывем? Хто мы, што мы? Дзе нашы кнігі, карціны, песні? Няма іх, не напісалі, не склалі... Аднойчы нешта стварыўшы, паверылі, што мы таленты, мастакі, а таго не ведалі, што сапраўдны мастак нібы ёг: басанож ідзе па гарачым вуголлі. Нам жа не хапіла мужнасці і таленту не тое каб ісці па гарачым вуголлі, а проста хоць штонебудзь тварыць».

Родныя сцены старой бацькавай хаты, родная зямля, неба над галавой дораць душэўны спакой, лечаць стомленае сэрца паэта. У душы Артур Цяжкі — сапраўдны паэт. Ён і пачынаў як паэт, пісаў вершы, а потым адчуў, што гэтага яму мала, у ім пачаў нараджацца пісьменнік.

Ён меў сваю філасофію жыцця, выдатны і асаблівы голас, тонкі і адчувальны погляд на ўвесь навакольны свет, забраўшы з сабой у неба цэлы космас пачуццяў, памкненняў, планаў, надзей і ў той жа час вельмі наш, вельмі беларускі празаік — Артур Цяжкі.

Паміж мінулым і сучаснасцю, паміж паэтамі і празаікамі, якія даўно пайшлі, і тымі, хто жыве і піша сёння, існуе нябачная жывая ніць святых традыцый.

Мы памятаем усіх.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

# Праз чароўнае шкло

**Ці бачылі вы калі-небудзь, як выглядае расплаўленае шкло? Гэта ж сапраўдны мёд! Нездарма мастакоў па шкле часта называюць пчоламі. Менавіта такое, «мядовае», мастацтва прадставілі ў сталіцы літоўскія творцы Рэмігіус Крукас і Індры Стулгайтэ-Крукіене.**

Выстаўка «Магія шкла» ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прадстаўляе творы студыі шкла «Glasremis». Гэта літоўская прыватная ўстанова з невялікім зладжаным калектывам, дзе гаспадарыць мастак Рэмігіус Крукас. Інтэрнацыянальны студыйны рух (glass studio movement) як з'ява сфарміравауся яшчэ ў 2-й палове XX стагоддзя. Масавы адток мастакоў з буйной шкляной вытворчасці ва ўласныя студыі суправаджаўся эксперыментальнымі пошукамі, свабодай форматворчасці. У лік такіх творцаў і трапіў Рэмігіус. Сёння яго студыя займаецца



Рэмігіус Крукас «Акіян», 2009 г.



Фота Кастуся Дробава

Рэмігіус Крукас «Золата восені», 2012 г.

вырабам дэкаратыўных скульптур, бізнес-падарункаў, аўтарскіх работ для выставак і міжнародных конкурсаў.

— Кожны шкляны шэдэўр вырабляецца ў печы, фарміруецца толькі рукамі (ніякіх пальчатак!). У дапамогу — мокрая газета і тканіна, дрэва. Работы атрымліваюцца рознай формы і вышыні. Дыяпазон вырабаў, выплаўленых са шкла, велізарны: падарункі для спартыўных спаборніцтваў, будаўнічых і газавых кампаній, заводаў харчовай прамысловасці, джазавых фестываляў, шматлікіх сімпозіумаў і кірмашоў.

— Рэмігіус вельмі адказна ставіцца да сваёй працы. Напрыклад, калі ён рыхтуе падарунак для чалавека высокай пасады, то распытвае пра яго ўсё да дробязей, каб стварыць скульптуру па душы, — распавяла пра студыю «Glasremis», а таксама пра свайго мужа і адначасова калегу па працы Індры Стулгайтэ-Крукіене. — Не так даўно Рэмігіус пачаў працаваць з металам, у выніку скульптуры важаць не менш як 20 кілаграмаў. Але яго ўлюбёным матэрыялам для апрацоўкі гутнага шкла з'яўляецца дрэва: яно надае своеасаблівую форму, пасля чаго немагчыма зразумець, як усё было зроблена. Заўсёды эфектна выглядае ліццё з плавіннем — грандыёзнае шоу, як у фокусніка — шмат дыму і агню, часам спрацоўвае пажарная сігналізацыя.

Літоўскія творцы Рэмігіус Крукас і Індры Стулгайтэ-Крукіене называюць сябе вечнымі студэнтамі. Яны ўвесь час вучацца, пераймаюць досвед еўрапейскіх майстроў. Напрыклад, для таго, каб адлітае гутнае шкло злучыць з якасным і мяккім аптычным, якое добра іграе на святле, творцы едуць у Чэхію. Там жывуць сапраўдныя профі па працы са шклом. Але літоўскія майстры таксама могуць пахваліцца сваім прафесійным досведам: непаўторныя вырабы з бурштыну — нацыянальны гонар.

Як студыя шкла «Glasremis» працуе з 2000 года. У асноўным скульптуры вырабляюцца на замову і на экспарт. Энтузіязм Рэмігіуса перадаецца кожнаму студыйцу. Калі спытаеце — вам абавязкова распавядуць, як зроблена скульптура, які колер выкарыстаны.

— Мы — сям'я зачараваных шклом! — запэўніла Індры Стулгайтэ-Крукіене. — Ганарымся сваёй працай і вырабамі. Гутнае шкло па сваёй чысціні і празрыстасці часта параўноўваецца з крышталём, але яго склад зусім іншы. Увогуле, хочацца адзначыць, што сёння шкло памылкова называюць прыкладным матэрыялам — яно даўно ўжо вырасла з гэтага азначэння.

**Таццяна ШЫМУК**

# Ювелірная праца

**Знакамітыя майстры габеленаў, аўтары ювелірнага букета васількоў для «Славянскага базару», дызайнеры, чые ўпрыгожанні носяць «Боні-М» і Анжаліка Агурбаш... Віцебскія мастакі Юрый і Таццяна Рудэнкі прадставілі ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея персанальную выстаўку дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Толькі вечныя каштоўнасці».**

Ювеліры, жывапісцы, спецыялісты па вітражы і батыку, яны большасць сваіх работ ствараюць у чатыры рукі. З часоў вучобы на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педагагічнага інстытута Таццяна і Юрый неразлучныя. Разам сустракаюць і свае шасцідзесяцігадовыя юбілеі, з нагоды якіх і ладзіцца выстаўка ў сталіцы.

У экспазіцыі прадстаўлена толькі сотня з некалькіх тысяч работ віцебскага тандэма: габелены, батык, дэкаратыўныя пано, дробная пластыка і жывапіс. Запамінаюцца па вобразным і дэкаратыўным рашэнні габелены «Медытацыя» (1996) і «Горад Шагала» (1996). Перад мастакамі стаяла нялёгкая задача: устанавіць шматпланавыя візуальныя сувязі і пры гэтым захаваць агульную плоскасць кампазіцыі. Ім уласцівая смелая манера кампанаваць дзякуючы асіметрыі і свабоднаму ахопу вялікага палатна. З гэтых адносна невялікіх тканых пано нарадзіліся вялікія заслоны для інтэр'ера. Такія пано-заслоны выкананыя Юрыем і Таццянай для Дзяржаўнага музычнага каледжа імя І. І. Салярцінскага, раённага дома культуры г. Віцебска, турбазы «Віцебская», дома культуры г. Верхнядзвінска і інш.

Многія майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва робяць замалёўкі, эцюды, эскізы. Рудэнкі таксама ствараюць жывапісныя палотны ў рознай тэхніцы з элементамі дэкору. Арыгінальнасць вобразнага бачання выяўляецца ў стварэнні гарачага батыку, дзе ўдала спалучаюцца роспіс натуральнымі фарбавальнікамі і вышыўка кітайскім шоўкам. Аўтары шукаюць новыя каляровыя гармоніі, не парушаючы спецыфічныя законы дэкаратыўнага мастацтва.

Акрамя габелену і батыку Юрый і Таццяна захапляюцца арыгінальнымі дэкаратыўнымі пано — аплікацыямі, выкананымі ў змешанай тэхніцы. У пано і батыку яны паказваюць вобразы свету прыроды, асабліва птушынага царства.

Майстры ў сваёй творчасці звяртаюцца да ювелірнага мастацтва і дробнай пластыкі. Ад яго — брутальнасць і аб'ём, ад яе — ажурнасць і вышталцоныя формы: «Эпоха Вадалея» (2007), «Нараджэнне воблака» (2008). Як мастакі-ювеліры Рудэнкі выкарыстоўваюць белае срэбра і жоўтае золата, спалучаючы іх у асноўным з гранёнымі камянямі: ізумрудамі, рубінамі, цырконамі і інш. Метал у іх руках набывае сваю выразнасць.

Апошнія тры гады прадметам творчага пакликання Таццяны Рудэнка з'яўляюцца праваслаўныя іконы. Мастачка стварае іх сама, пачынаючы ад выпісанага на спецыяльным палатне аблічча да апраўлення камянямі. Дваццаць пяць работ ручной працы з натуральнага жэмчугу, крышталёў і бісеру, прывезеных з Ізраіля, прадстаўлены ў Мінску. На іканапіс у пацерках Таццяну блаславілі ў Ерусалімскім Храме Труны Гасподняй. Вобразы, якія натхняюць творцу, не перастаюць з'яўляцца: з нядаўняга — Уладзімірскі абраз Божай Маці, Святы Панцеляймон Лекар, Архангел Міхаіл.

Рудэнкі бралі ўдзел у многіх фестывалях як стваральнікі прызоў. Прыкладам могуць служыць работы да Міжнароднага шагалаўскага пленэру, Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», фестывалю моды «Белая амфара», кінафестывалю «Аблічча кахання». Творы мастакоў захоўваюцца ў шматлікіх музеях Беларусі, Расіі, Польшчы, у прыватных зборах.

**Таццяна ШЫМУК**



Габелен «Паэты не нараджаюцца выпадкова».

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2599.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.11.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4727.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686